

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 4(63) Красавік 1999 April Год выд. 7.




### ХРЫСТОС ВАСКРОС

Хрыстос васкрос ! . . . Усюды радасьць,
Усё глядзіць сьмялей, сьвятлей;
Вялікі Мучальнік, здаецца,
Абняў ўсіх ласкаю сваей.

Хрыстос васкрос ! . . . Неугамонна
Плыве па нівах, пушчах клік,
Плыве адна сьвятая думка
З канца ў канец, як сьвет вялік.

Хрыстос васкрос! — пяе сялянін
З сваёй убогаю раднёй,
Забыўшы песьні аб прадвесьні,
Забыўшы ўсё усёй душой.

Хрыстос васкрос! — пяе сіротка,
Слуга, таптаная людзьмі!
Пяе ў чужыне падарожны,
Забыты бліжнімі сваймі.

Хрыстос васкрос! — пяюць і тыя,
Хрыста згубіўшыя сыны,
Што ў ціхамоўку ладзяць сеткі
Для нашай беднай стараны.

Хрыстос васкрос ! . . . К Табе, о, Божа,
І я ў дзень гэты думку шлю:
Хай Беларусь, мая старонка,
Ускрэсьне к лепшаму жыцьцю!

1908 Я. Купала

**Хрыстос уваскрос із мертвых, сьмерцяю сьмерць патаптаў і тым, што ў магілах, жыцьцё дараваў.**



МАЙ 1999

**16**

НЯДЗЕЛЯ

ДЗЕНЬ ВЫБАРАЎ ПРЭЗЫДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

Сутнасць і змест Вялікадня — свята ўсіх свят хрысціянаў — вызначаюць падзеі апошніх дзён зямнога жыцця Ісуса Хрыста і Яго Уваскрэсення. Пасля смерці на крыжы Збавіцеля Іосіф і Нікадзім (вучні Хрыста) знялі цела Яго, абгарнулі чыстаю плашчаніцаю і паклалі ў пячоры. Уваход быў прывалены цяжкім каменем, а па загаду ворагаў Хрыстовых — прыстаўлена варта. «Як прайшла субота, на світанні... прыйшла Марыя Магдаліна і другая Марыя паглядзець магілу. І вось зрабіўся вялікі землятрус: бо Анёл Гасподні, які сышоў з неба, прыступіўшы, адваліў камень ад уваходу ў магілу і сядзеў на ім; выгляд жа яго быў, як маланка, і ўбранне яго белае, як снег. І ад страху перад ім задрыжэлі вартаўнікі, і сталі, як мёртвыя. Анёл жа, звяртаючыся да жанчын, сказаў: не бойцеся вы; бо ведаю, што вы шукаеце Ісуса ўкрыжаванага; няма яго тут; Ён уваскрэс, як сказаў; падыдзіце, пабачце месца, дзе ляжаў Гасподзь; ды ідзіце хутка, скажыце вучням Яго, што Ён уваскрэс з мёртвых...»(Новы Запавет.Мф.28:1-7).

На Пасху (Вялікдзень) мы абменьваемся фарбаванымі (пераважна ў чырвоны колер) яечкамі. У старажытным паданні апавядаецца, што аднаго разу Марыя Магдаліна, прапаведваючы веру Хрыста, прыйшла да імператара Рыма і падаравала яму простае яечка са словамі: «Хрыстос уваскрос!» У сапраўднасці слоў святой Магдаліны ўладар імперыі пераканаўся відавочна: звычайнае яечка ў ягоных руках раптам пачало ружавець і, урэшце, стала ярка-чырвоным!

З тых старасвецкіх часоў мы падчас найвялікшага свята Вялікадня даруем адзін аднаму фарбаваныя ячкі, як сімвал несмяротнасці жыцця і крыжовых пакут Ісуса Хрыста, дзеля нашага ўратавання, і кажам пранікнёныя словы:

«ХРЫСТОС УВАСКРОС!»

Увогуле ж Пасха — свята старазапаветнае, усталяванае як памяць аб сыходзе яўрэяў з Егіпта, вызваленні іх з егіпецкага рабства. Назва яго паходзіць ад яўрэйскага слова « *pesach* », што значыць — праходзіць міма, ратаваць ад бяды. Вось адно з упамінанняў свята ў Бібліі: «Праз два дні павінна было адзначацца свята Пасхі і праснакоў; і шукалі першасвятары і кніжнікі, каб узяць Яго ( Ісуса Хрыста — *рэд.*) хітрасцю і забіць» (Новы Запавет, Мк.14:1).

Хрысціянскі ж свет адзначае Пасху з часоў вызначальнай падзеі Уваскрэсення Ісуса Хрыста. Святкаванне яе адбывалася ўжо ў апостальскай (заснаванай вучнямі Збавіцеля) Царкве. У II стагоддзі існавалі два святы, дзве Пасхі. Адна — у знак смерці Збавіцеля, другая — у гонар Уваскрэсення Хрыстовага, яго Узнясення (саракавы дзень пасля Уваскрэсення), сашэсця Святога Духа на апосталаў (Пяцідзесятніца — пяцідзесяты дзень пасля Уваскрэсення). Пры тым, першая Пасха праводзілася ў журбе і строгім посце. З V стагоддзя назва «Пасха» стала надавацца толькі святу ў гонар Уваскрэсення Хрыстовага.

У хрысціянскай Царкве свята Пасхі ў абагульняючым сэнсе пачало азначаць: уваскрэсенне з мёртвых, пераход ад смерці да жыцця, абнаўленне і ўратаванне. Свята Пасхі — трыумф хрысціянскай веры, дабрадзейнасці, надзеі.



**Выдавец «Беларускага Дайджэсту» вітае Ўсіх чытачоў з вялікім хрысьціянскім сьвятам — ВЯЛІКАДНЕМ!**

## ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ БЯДА

26-га красавіка 1986 г. раптоўна выбухнуў Чарнобыль. Ужо шмат гадоў яго чорны дым засланяе будучыню сваёй ахвяры — Беларусі...

У той дзень дзьмуў цёплы пругкі вецер. Увечары месцамі прайшлі дажджы з навальніцамі. Усё ў наваколлі здавалася звычайным. Але гэта быў ужо ня той вецер, ня той дождж, ня тая навальніца. Нябачнае і злавеснае насельне незразумелага пакараньня несьлі яны з сабою. Палесьсе, Падняпроўе, Пасожжа, — былы радзіміцкі край, — спрадвеку беларускія землі. За што ім такое, шматпакутным...



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Масей СЯДНЁЎ (ЗША.)

# ПІСЬМЕНЬНІК БЕЗ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АПІРЫШЧА

Адным з важных дасягненьняў беларусізацыі 20-х гадоў было ўзвышэньне беларускай мовы да ступені літаратурнай мовы. З граматыкай Язэпа Лёсіка, як школьным падручнікам, беларуская мова набывала ўжо рысы нарматыўнай мовы. А наданьне беларускай мове статусу дзяржаўнай мовы рабіла яе адзінай, агульнай мовай беларусаў. Гэта надавала ёй апрача ўсяго іншага, аўтарытэт і законнасьць. Беларуская мова ахапіла сабой ня толькі ўсе школьніцтва рэспублікі, а і ўводзілася ўжо ў дзяржаўныя ўстановы і такім чынам з мовы пагарджанай яна станавілася пануючай мовай.

У станаўленьні беларускай літаратурнай мовы, як мовы нацыянальнай, канешне-ж, вялікую ролю адыгрывалі беларускія пісьменьнікі, беларуская літаратура, як гэткая. У беларускую літаратуру 20-х гадоў прыйшло пакаленьне маладых паэтаў і пісьменьнікаў. Вялікая бальшыня з іх атрымала адукацыю ў беларускай школе — у сямігодцы, у тэхнікуме, у рабфаках, у іншых навучальных установах і беларускасьць для іх была, так-бы мовіць, арганічнай і самазразумелай зьявай. Выхаваныя на класіках беларускай літаратуры — на творах Багушэвіча, Купалы, Коласа, Гаруна, Бядулі, Багдановіча, яны працавалі, калі можна так сказаць, у беларускім нацыянальным клімаце. Коштам дыялектаў яны ўзбагачалі беларускую літаратурную мову, надавалі беларускай літаратуры стылёва адметную каларытнасьць, запладнялі яе новымі тэмпамі, новымі вобразамі. Руская літаратура, я сказаў-бы, была для іх нечым пабочным, яны былі самі ў сабе, у іх было сваё нацыянальнае апірышча, яны былі дома, у сваёй хаце. Яны былі творцамі беларушчыны. Зазначу тут, у гэтай беларушчыне марксіцка-ленінская артадоксія якраз і ўгледзела той "буржуазны нацыяналізм", тую "нацдэмаўшчыну", што гэтак дорага каштавала беларускай літаратуры, ейным творцам.

Сёньня беларускі пісьменьнік ня мае таго нацыянальнага апірышча, пра якое мы гаварылі вышэй. У беларускай школе ён бадай і не вучыўся, пачынаў сваю вучобу адразу з рускай мовы, класікаў беларускай літаратуры ён ведае з большага, беларускую літаратуру засланяе ў яго руская літаратура. На ёй ён і склаўся, як пісьменьнік. Руская мова зрабілася для яго пасутнасьці родная мовай. Але ён — беларускі пісьменьнік, і яму належыцца пісаць па-беларуску. І ён піша па-беларуску. Ды знаходзячыся ў палоне рускай мовы, выхаваны на ёй, ён думае на гэтай мове, ягоная беларуская мова ў шмат чым нагадвае пераклад, кальку. У яго-ж бо няма беларускага нацыянальнага грунту, на якім ён мог-бы фармавацца, як беларускі пісьменьнік. Жывучы ў Беларусі, ён не адчувае на сабе ўздзеяньня беларускасьці, ён ня чуе стыхіі беларускай мовы, культу гэтай мовы, веды беларускай мовы ў яго пераважна кніжныя, яго не запладняе жывая, штодзённая беларуская мова, ён падуладны стыхіі іншай мовы — рускай. Адсюль анімічнасьць беларускай мовы ў пісьменьніка, што ўзрос не на сваёй нацыянальнай глебе, адсюль і тая беларуская мова-калька. Канешне, нельга ня браць пад увагу родаснасьці беларускай і рускай мовы, пэўнага падабенства ў іхнай структуры. Гэтая акалічнасьць і спрычыняецца да "запазычаньняў" з рускай мовы пісьменьнікам, што рос, можна сказаць, у адрыве ад нацыянальнай культуры, што ня меў пад сабою нацыянальнага апірышча.

Але родаснасьць, падабенства беларускай і рускай мовы даволі адноснае. Беларуская мова мае свой прыродны корань, які сьведчыць пра ейную самастойнасьць і сувэрэннасьць. Беларускую мову трэба ведаць. Яна прыгожа служыць таму, хто зрадніўся з ёй, хто дапаў да ейнага невычэрпнага радовішча, да ейнага кораню. Перад такім знаўцам яна раскрывае ўсё сваё багацьце, усе свае скарбы. Яна мае дастатковыя сродкі, каб на ёй выказваць усе адценьні, усе нюансы, усе тыя "тонкасьці", дзеля якіх нам быццам не хапае свае мовы і мы часам жыўём уклейваем у сваю мову русыцызмы ці паланізмы, а то і цэлыя словазлучэньні. Гэта ўсё разрывае жывую тканіну нашай мовы, калечыць яе. А ўсё таму, што мы ня ведаем "тонкасьцяў" сваёй мовы. Цэлае пакаленьне пісьменьнікаў, што было выхаванае на ўзорах іншай культуры, пакаленьне, што ня мела магчымасьці ўрастаць у сваю культуру, пакаленьне, пазбаўленае нацыянальнага апірышча, вобразна гаворачы, якраз і кульгае на гэтыя "тонкасьці" і вымушана зьвяртацца да паслугаў іншай мовы.

Але хвала гэтаму пакаленьню, што нягледзячы на палітыку дэнацыяналізацыі, не зраклося матчынай мовы, беларускага імя і трымае сёньня сьцяг беларускай літаратуры, не дае яму ўпасьці ва ўмовах, далёка няспрыяльных. Хвала таму пісьменьніку, што нягледзячы на пануючае становішча іншай больш моцнай культуры, застаўся беларускім пісьменьнікам і ўнёс свой пасільны уклад у беларускую літаратуру, бо-ж і літаратура — гэта тое нацыянальнае апірышча, без якога ня можа абыйсьціся ніводная нацыя, што шануе сябе.

# КОЛЬКІ НАС, РАЗАМ УЗЯТЫХ?

КУЛЬТУРА

***Беларусь першай з былых савецкіх рэспублік здолела, згодна традыцыйнай практыцы (раз у 10 гадоў), арганізаваць перапіс. Была праведзена вялізная падрыхтоўчая праца: на першым этапе — картаграфія, на другім — удакладненне адраснай гаспадаркі. Вызначаны межы раёнаў, па кожным населеным пунце, кожнай вуліцы, кожным доме былі састаўлены спісы. Усё гэта дзеля таго, каб пазбегнуць падвойнага перапісу. Міністэрствам статыстыкі і аналізу прыцягнута дадаткова 41 тысяча асоб, з іх каля 33 тысяч так званых лічыльнікаў, людзей, што будуць праводзіць перапіс. Кожнаму з іх давядзецца па 250—350 чалавек.***

Наогул, гісторыя падобнага кшталту акцый у нашым краі сягае ў далёкую даўніну. У 1528 годзе ў Вялікім княстве Літоўскім паводле загаду Жыгімонта Аўгуста Старога быў наладжаны гэтак званы попіс, які меў элементы перапісу, ягонай мэтай было вызначэнне памеру вайсковай павіннасці шляхецкіх станаў і сялянскай гаспадаркі. Вядома, акцыі, падобныя да перапісу, на нашых землях праводзіліся і раней, але ж вышэйназваны попіс быў фактычна першай поўнамаштабнай акцыяй, наладжанай дзяржавай. Потым попісы пачалі праводзіцца рэгулярна, часам мелі рэгіянальны характар. Напрыклад, у 40—50 гг. XVI ст. у сувязі з турэцкай агрэсіяй попіс праводзіўся на землях цяперашняй Украіны, на той час Літоўскай правінцыі... Але, усё ж такі, першы ў сучасным выглядзе перапіс насельніцтва на Беларусі быў праведзены ў 1897 годзе, у рамках агульнарасійскага. У бягучым стагоддзі на тэрыторыі нашай краіны праводзілася восем перапісаў — у 1920, 1926, 1937, 1939, 1959, 1970, 1979 і 1989 гадах. Першыя чатыры перапісы, з вядомых гістарычных прычын, не праводзіліся на паўночна-заходніх і заходніх тэрыторыях. Атрымаць дакладную інфармацыю паводле перапісу 1920 года перашкодзіла грамадзянская вайна. Несапраўднымі былі прызнаны вынікі перапісу ў 1937 годзе, матэрыялы абвешчаныя "дэфектнымі", арганізацыя перапісу незадавальняючай, адказныя асобы названыя "ворагамі народа"...

У перапісным лісце ўзору 1999 года — 17 пытанняў, апошняе для жанчын. У асноўным яны маюць традыцыйны характар, дзеля параўнальнага аналізу з папярэднімі перапісамі. Але ж, калі параўноўваць з перапісам 1989 года, ёсць сякія-такія змены. Так, упершыню асобна ўключана пытанне аб грамадзянстве, аднача- сова знікла графа аб няскончанай вышэйшай адукацыі, у пункце аб шлюбным стане ў варыянце адказу з'явіўся пункт — "незарэгістраваны шлюб", так бы мовіць, даніна часу, больш дакладна сфармуляваны параграф аб сродках існавання...

Няпроста, у адрозненне ад папярэдніх перапісаў, пададзена пытанне аб роднай мове, што выклікала неадназначную рэакцыю ў грамадстве, стала прадметам спрэчак. Праўда, паводле меркавання намесніка міністра статыстыкі і аналізу Галіны Гасюк, ніякага наўмыснага подступу тут няма, бо ўсе пытанні складаліся згодна з "Рэкамендацыяй па правядзенні перапісаў насельніцтва і жылля 2000 года ў рэгіёне ЕЭК", распрацаванай Еўрапейскай эканамічнай камісіяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый сумесна са Статыстычным упраўленнем Еўрапейскіх супольнасцяў. Улічваўся таксама вопыт іншых краін.

Дарэчы, аб мове. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што значная частка агітацыйна-рэкламная прадукцыі (плакаты, аб'явы і г.д.), паседванні лічыльнікаў, асноўны тыраж перапісных лістоў надрукаваны на рускай мове. Як лічыць начальнік аддзела перапісу насельніцтва пры Міністэрстве статыстыкі і аналізу Беларусі Стэфанія Лукашэвіч, не варта выкідваць грошы на пераклад. Такое стаўленне мінстатаўцаў да дзяржаўнай мовы наўрад ці назавеш карэктным.

Перапіс 1999 года, у адрозненне ад таго, што адбыўся 60 гадоў таму, мае выключна добраахвотны характар. Адказваць на пытанні ці не — прыватная справа асобы. Трэба толькі ўлічваць тую акалічнасць, што сёння без уліку насельніцтва не можа абысціся аніводная дзяржава. Чым больш развітая краіна ў сацыяльна-эканамічных адносінах, тым вышэй яе патрабаванні да паўнаты і рознабаковасці дадзеных аб насельніцтве. У рэшце рэшт, перапіс — гэта гісторыя, наколькі поўнай яна будзе, залежыць ад нас з вамі.

**Аляксей СТРЭЛЬНІКАЎ**



Сяргей ДАВІДОВІЧ ("Беларусь")

## ЗЬВЯРТАЮСЯ ДА ЦЯБЕ, МАЯ БЕЛАРУСЬ!

Тое, што ты перажыла — усім вядома. Тое, што ты перажываеш — усьведамляецца нямногімі. У гэтым — наша трагэдыя. Сёньня ты перажываеш самы крытычны момант сваёй гісторыі, сёньня вырашаецца найгалаўнейшае пытаньне: — Быць ці ня быць!? Быць табе, а значыцца, і нам, беларусам, незалежнымі, вольнымі ці зноў паслухмяна падставіць свае сьпіны пад цяжар чужых інтарэсаў? З гонарам несьці сваю нацыянальную годнасьць і сьвядомасьць ці страціць дзяржаўнасьць, самабытнасьць, беларускасьць? Дык быць ці ня быць? На жаль, заўсёды ёсць сілы, якія знаходзяцца на баку "ня быць". Гэтыя сілы выкарыстоўваюць і сваё службовае становішча, і несьвядомасьць значнай часткі беларусаў.

Той, хто быў за мяжой і бачыў розныя «швэцкія» сталы, павінен быў бачыць і другое — гаспадары тых сталоў не ўзялі-б і кавалачка ў рот без адчуваньня сваёй нацыянальнай годнасьці. Скажу шчыра — дзе-б я ні быў, мне заўсёды востра не хапала аднаго — Беларусі.

Кажуць, што чалавека трэба пазбавіць свабоды, каб ён ацаніў увесь цяжар страты. Вельмі жорсткае пакараньне! Чаму-ж мы добраахвотна яго жадаем?

## ЗЬВЯРТАЮСЯ ДА ЦЯБЕ, УСЕМАГУТНЫ БОЖА!

Дай паразуменьне тым, хто не ўсьведамляе, што без сваёй нацыянальнай культуры, без сваёй роднай мовы ня можа быць той еднасьці людзей, якая складае нацыю, дзяржаву, а, значыцца, ня можа быць і СВАЁЙ моцнай эканомікі, ня можа быць дабрабыту. Усё ўзаемазвязана!

## ЗЬВЯРТАЮСЯ ДА ЦЯБЕ, МОЙ СУЧАСЬНІК, МОЙ БРАТ-БЕЛАРУС!

Ня дай загінуць той зямлі, у якой — твае карані і якая завецца Беларусьсю!

**НЯ БУДЗЕ ЯЕ — НЯ БУДЗЕ І НАС !**

# Роздумы пра годнасць

*Ніва*

Ад спадара Юрыя Баены атрымаў я нагодні падарунак: „Вечар над светам" — зборнік ягоных паэтычных твораў. У адным з іх закрануў ён пытанне, якое мяне хвалюе ад дзесяцігоддзяў. Аўтар піша: „Моцныя народы, як сабакі, кідаюцца ў абароне сваёй годнасці. Беларусы толькі пытаюць: навошта?"

Мой знаёмы — паляк — на падобнае пытанне адказаў: „Чалавечае грамадства пакуль сарганізавана так, што калі хто не носіць „зброю", каб бараніць справы сваёй айчыны, мусіць рабіць гэта як халуй, змагаючыся за чужыя інтарэсы". „Няўзброены" ніколі не будзе вольны ў экспансіўным акружэнні. Выходзіць, што і годнасць з'яўляецца зброяй.

Можна падумаць, што беларусы, якія на сваёй зямлі ад стагоддзяў аставаліся парабкамі ў акупантаў, надалей успрымаюць панящце асабістай годнасці паводле вучэння Маякоўскага: „адзінка — нуль", значыць, нешта малапатрэбнае, не раўняючы, спарахнелы калок у плоце, палена на чужое вогнішча, і таму падобнае. Маякоўскі ўсё ж памыляўся. Нават мільён нулёў гэта толькі нуль — і не толькі ў арыфметыцы — калі перад імі не стаіць „адзінка". Дыктатура пралетарыяту — сіла рабочых мас — без дыктатара-адзінкі аказвалася таксама нулём. Бо калі масы часам не сумелі ў чым-небудзь быць аднадумнымі з дыктатарам, дык знікалі як нулі, калі не ў сырой зямлі, то недзе ў шахтах — з волі дыктатара-адзінкі. Дыктатар рыхтаваўся здзейсніць сусветны пераварот. Задума сур'ёзная. Найлепшымі рэвалюцыянерамі — як лічыла партыя — могуць быць толькі людзі галодныя і без даху над галавой. Шмат такіх было, але нешта не сыграла. Не паверылі лозунгам? Асабліва тады, калі адкрыўся, на ўвесь рост, культ асобы і паказаў свету твар камуністычнага „гуманізму". Іншы дыктатар ад пачатку адкрыта заяўляў, што імкнецца стварыць: „Ein Reich, ein Volk, ein Fuhrer" і дзейнічаў (свет папраўляў у крэматорыях). І мэты дыктатараў былі падобныя і вынікі дасягнутыя мала розніліся... Метады крыху нясходныя былі. Расейцы скрывалі імкненні пашырэння імперыі, прыкрываліся лозунгамі дружалюбнасці, дапамогі суседзям. А нявыгадных ліквідавалі — то як шпіёнаў, то як нацдэмаў, або проста як ворагаў народа. Напрыклад, польскі камуніст Прухняк сам паехаў у Маскву пагаварыць пра ролю польскіх камуністаў у стварэнні новага парадку, а там яго і „шлёпнулі". Зрэшты, гінулі тысячы. Ці хто ведае пра лёс стваральнікаў БССР? Пра ўгодкі ўтварэння гэтай Рэспублікі прыгадвае „Беларускі каляндар '99". Ні словам аднак не намякае пра герояў гэтай падзеі. А праўда была такая, што адзін толькі Дыла памёр у Сібіры ад старасці, усіх іншых членаў урада бальшавікі пастралялі заўчасна. Сусветнай рэвалюцыі не пашанцавала, захаваўся СССР. 70 гадоў будаваў дабрабыт, а перш за ўсё, новыя „перадавыя" суадносіны між людзьмі — здзяйсняў камуністычнае выхаванне грамадства. Была гэта дзяржава, у якой усе грамадзяне (без малалеткаў) з'яўляліся „дастойнымі" членамі вялікай партыі Леніна і Сталіна. Усе ў свеце ўжо чулі, што саветы дагналі і абагналі ўсё і ўсіх. А тут Саюз рассыпаўся. Што асталося ад савецкай гаспадаркі і бальшавіцкага „дастоінства"?

Вядома, шмат хто на мае словы абурыцца, скажа, што не ўсё ў іх праўда, што людзі жывуць, працуюць, значыць, нешта ствараюць. Толькі я пішу не пра статыстыку, а пра мэту і сродкі. Скажу толькі: „Собачая тая праўда, якую хлуснёй даказваць трэба!" Вось гады праходзяць, а мы паціхеньку факты забываем. Нават ужо нам і ў галаву не прыходзіць, што наша стагоддзе было сведкам не толькі таго, што гісторыя на шмат гадоў затрымалася, яшчэ горш: яна нават нас кінула ў змрочную эпоху рабаўладальніцтва. Для старажытных эксплуататараў, як і гітлераўска-сталінскіх, эпоха такая была незвычайна выгаднай. Рабочая сіла была дарма, бо рабам можна было зрабіць кожнага. Зрэшты, чаму немцы, маючы ў сваіх руках палову Еўропы, не маглі абяцаць „сваім" збудаваць Новую Еўропу? Сталін абяцаў „светлую будучыню" камуністам. І ці ж не мог абяцаць, маючы палову грамадзян у лагерах? Гэта іх рукамі, дарма, будаваліся „дасягненні" партыі. Пры дарозе ў „Саловушкі" стаяла дошка з лозунгам: „Железным кулаком мы к счастью человечество загоним". Вось тут і ўся мараль сталінска-гітлераўскага ладу. Мала што людзей у ім лічылі як рабочае быдла, то яшчэ выхоўвалася іх да гэтай ролі ўкараненнем у іх страху перад смяротным пакараннем за абы-што, а нават за нішто. Забівалі ўсюды — у Курапатах, у Асвенціме, а нават за вуглом вясковай хаты. Хапіла, што сусед назваў цябе ворагам народа ці яшчэ кімсьці...

Дык якую годнасць могуць мець тыя „моцныя" народы, якія паўплывалі на лёс разбуранай Еўропы? Ці не сабачую? А можа тут зусім іншая справа? Можа яны баяцца, каб ніхто не дадумаўся, якія яны ў сапраўднасці? А можа вераць у дадзеную ім Богам місію? Напрыклад, ці такія словы, як сказаныя архібіскупам Шымэцкім некалі для „Gościa Niedzielnego", што на Беласточчыне раней беларусаў не было, а цяпер яны тут польскасці пагражаюць, можна прыняць як клопат духоўнага пра божых вернікаў, ці як нацыяналістычнае выступленне, якое яму годнасці не прыбаўляе?

Усё ж варта тут затрымацца на хвілінку. Польская нацыя не вымерла за час падзелу Польшчы між яе суседзямі. Палякі жывуць раскіданыя па ўсім свеце і амаль усюды яны жывуць у сарганізаваных асяроддзях. Польская мова, польская культура і рэлігія іх нідзе не адступаюць. Бо пра гэта дбаюць польскія арганізацыі, і, перш за ўсё, польскія ксяндзы. Яны ёсць усюды, нават у Казахстане і ў Сібіры. На жаль, беларускае замежжа не такое вялікае, каб здолець супрацьстаяць расейскаму нацыяналізму, які дзякуючы айчыннаму прэзідэнту разгуляўся па краіне так, што за беларускае слова на вуліцы сталіцы можна дастаць дубінкай па галаве. Расейцы таксама пра сваіх памятаюць.

Я ўжо некалі ў „Ніве" пісаў, што будучы ў Беларусі наведаў сваю школу. Убачыў тады ў ёй на сцяне, уздоўж усяго калідора аграмадны лозунг: „Сберегайте наш Великий Русский Язык". Памятаю, першыя крокі ў адукацыю ставіў я там да вайны, у час панавання Польшчы. Тады настаўнікі пільна дбалі, каб кожны школьнік умеў верш: „Kto ty jesteś? — Polak mały..." Выходзіць, што тыя моцныя баяцца годнасці сваіх зняволеных і робяць усё, каб іх атуманіць, перацягнуць на свой бок, сказаць ім, што яны гэта не яны... Як было са славутым Сянкевічам, пра якога расейцы гаварылі: „русский писатель пишущий на польском языке..." У школьнай кнізе „Сеятель" ужо за цара-бацюшкі гаварылася, напрыклад, пра Белавежскую пушчу: „Некогда здесь существовало самостоятельное литовское княжество. Теперь край этот уже давно сделался русскимъ". Вядома, дзякуючы патрыятычнай апрацоўцы тубыльцаў.

Апрацоўку такую робяць і чужыя, і свае таксама. Кім жа былі тыя, г.зв. „праваслаўныя палякі", якія ў свой час на старонках „Нівы" сілком хацелі — чытачам — даказаць, што прыхільнікі незалежнай Беларусі гэта абавязкова польская пятая калона ў Беларусі! Ці дзейнічалі яны для выяўлення сваёй годнасці? Так палка гэта рабілі, пры нагодзе аплёўваючы ўсіх тых, хто не падзяляў іхняй думкі, а нават і гістарычных герояў, якія некалі служылі беларускай справе, што без цяжкасці можна было дайсці да высновы, што яны і ёсць якраз тая пятая бальшавіцкая калона ў Польшчы. Чаму людзі часценька гатовы служыць чужой справе? Мабыць, гэта аплачваецца, а напэўна служыць лягчэй, чым самому ствараць нешта каштоўнае. У гісторыі прыкладаў на гэта шмат. Многія мужыкі, калі іх вызвалілі ад прыгону, хацелі на службе ў паноў аставацца. Сыны Ізраіля нават у Егіпет гатовы былі вяртацца, калі Майсей павёў іх з няволі ў Палесціну. Значыць, няволя пазбавіла іх умеласці і волі быць самастойнымі. А самастойнасці як і ўсяго іншага, трэба вучыцца, асабліва калі хто хоча не як халуй, а як паўнавартасны чалавек сабой ганарыцца.

На маю думку, мець годнасць — гэта быць чалавечным, умець любіць сябе і ўсё сваё і шанаваць добрае чужое.

**Анатоль Маўчун**

Карлас Шэрман: НАША НІВА

# У якую краіну вернецца Васіль Быкаў?

**Карлас Шэрман — віцэ-прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру.**

**"Наша Ніва": Спадар Карлас, аднойчы Вы сказалі, што пачуваецеся эмігрантам ва ўласнай краіне. Ці застаецца ў Вас гэтае адчуваньне і цяпер?**

"Карлас Шэрман": У таталітарным грамадзтве, калі пісьменьнік становіцца непатрэбны грамадзтву, выдавецтвы кіруюцца пэўнымі ідэалягічнымі арыентыроўкамі, якія выключаюць плюралізм, і пісьменьнік застаецца на самоце. Ён адчувае сябе ў андэргграўндзе, па-за грамадзтвам, пад грамадзтвам. Гэта і ёсьць, у пэўным сэньсе, духоўная эміграцыя: калі пісьменьнік піша ў шуфляду, калі ён адлучаны ад чытача. Калі нават сустрэча з чытачом патрабуе дазволу.

Яскравы прыклад — сытуацыя вакол Васіля Быкава. Магутны талент застаўся ў Беларусі фактычна ізаляваны, нават бяз сродкаў для існаваньня. Кнігі ягоныя выкінулі з плянаў. І толькі дзякуючы "Нашай Ніве" «Сьцяна» на народныя грошы змагла дайсьці да чытача. Цкаваньне Быкава, зьнявагі, неразуменьне вымеру гэтага чалавека прывялі да таго, што Быкаў апынуўся за межамі Беларусі. Дзякаваць Богу, часовая эміграцыя не настолькі роспачная, як адчуваньне адрыву назаўжды. Але ўсё-ж ён адарваны ад Бацькаўшчыны...

**"НН": Напэўна, пісьменьнік перажывае эміграцыю нашмат цяжэй, чым любы іншы чалавек...**

К.Ш.: Галоўная цяжкасьць палягае ў ізаляванасьці чалавека, у абмежаванасьці кола суразмоўцаў, слухачоў. Дадайце сюды пэўныя цяжкасьці з замежнай мовай. І, вядома, адарванасьць ад сваёй глебы... Мы ганарымся тым, што нашыя калегі з фінскага ПЭН-цэнтру запрасілі Быкава, прынялі яго як сьлед. Бо калі пісьменьнік едзе на эміграцыю, ня маючы ніякай канкрэтнай падтрымкі, дык яму ўдвая цяжэй. Бо тады пісьменьнік мусіць ісьці на нейкія выпадковыя работы, каб зарабляць.

**"НН": А ці зьнікае самота творцы ад таго, што ён пераяжджае ў іншую краіну?**

К.Ш.: Пісьменьніцкая праца — гэта праца на самоце. Праца самаўдасканаленьня. Увогуле, каб вызначыцца, што такое пісьменьнік, трэба разабрацца ў прыродзе самоты. Адзінае выйсьце, выратаваньне ад самоты, вядомае чалавецтву — гэта творчасьць. Але-ж самота зноўку і зноўку навальваецца на чалавека. Асабліва калі ён ставіць апошнюю кропку ў творы.

Тады ён зноў адчувае пустэчу ў душы. Пачынаецца пошук выйсьця.

Лёс пісьменьніка — гэта і ёсьць самота. Усё, што побач, што навокал — неістотнае. Істотная сама творчасьць. Часта даводзіцца чуць ад вядомых пісьменьнікаў: «Калі прыходзіць другая карэктура твору, брыдка чытаць».

**"Н.Н": Што гэта значыць: немагчыма больш чытаць тое самае?**

К.Ш.: Не "чытаць тое самае" — проста чалавек ужо ў новых пошуках. Ён шукае нешта іншае, ён ужо іншым жыве. Ёсьць пісьменьнікі, якія ня могуць інтэрвію даваць па выхадзе кнігі. Бо гэта — перажытае, яно ўжо ня вернецца. Некаторыя пісьменьнікі ніколі не чытаюць крытыку на свае творы. На момант апублікаваньня гэтай крытыкі аўтар твору ўжо жыве ў зусім іншым сьвеце. У анатацыях вы знойдзеце толькі тое, што ён хацеў зрабіць. Але-ж гэта ўсё і так напісана ў ягонай кнізе!

Пісьменьніцтва — гэта, бадай, самота ў разуменьні мудрых індзейцаў: як магчымасьць думаць, магчымасьць засяродзіцца. Як магчымасьць прадбачыць.

Акрамя таго, у часы, падобныя да тых, якія мы перажываем сёньня, пісьменьніку даводзіцца займацца публіцыстыкай, марнаваць свой час, творчую энэргію на артыкулы. Гэта адбываецца з дзьвюх прычынаў. Па-першае, іхныя кнігі не выходзяць, не друкуюцца. Другое — чалавеку проста баліць, яго хвалююць падзеі, і маўчаць проста немагчыма, трэба выказвацца... Я ня ведаю, колькі новых твораў, кніг мы не атрымалі пасьля таго, як пісьменьнікі былі вымушаныя аддаць свой час публіцыстыцы. Пра гэта нават цяжка гаварыць... Уявіце сабе ненапісаную "Сьцяну", ненапісаныя іншыя творы — усё тое, што мы ніколі ўжо не атрымаем, што сышло ў нябыт. Часам, калі Васіль Быкаў працуе над кнігаю, калі цалкам засяроджаны на ейным матэрыяле, на любое пытаньне ён адказвае: "Даруйце, я — прыватная асоба". Ён замыкае вакол сябе самоту, якая потым дасьць грамадзтву плён.

**"Н.Н.": Ужо мінула дзевяць месяцаў, як Васіль Быкаў пакінуў Бацькаўшчыну. Калі ён вернецца ў Беларусь — у траўні? Ці будуць сустракаць Быкава людзі на менскіх вуліцах?**

"К.Ш.": Я ня ведаю, калі вернецца Васіль Быкаў. Гэта можа адбыцца і пры канцы траўня, і ў сьнежні... Калі дата вяртаньня Быкава стане дакладна вядомая, зробім усё магчымае, каб яго сустрэлі на радзіме дастойна.

Вяртаньне Быкава — гэта падзея. Іншая справа, у якую краіну вернецца Васіль Быкаў... Ці прыйдзе да яго тут зноў радасьць творчасьці? Ці пачуе ён на вуліцах Менску хоць слова на беларускай мове? Хоць-бы другога дня кожнага месяцу... Ці ня трапіць ён недзе ў падземным пераходзе пад кулакі нэафашыстаў?

"Н.Н.": Мы з Вамі гаворым пра вельмі балючыя рэчы... Але гэты год для Беларусі мусіць стаць лёсавызначальным...

"К.Ш.": Лёсавызначальным ёсьць кожны дзень, які мы ўсе перажываем. І гэты год стане гэткім-жа лёсавызначальным, як і кожны іншы год. Праўда, іншая гаворка, што мы ўпускаем гэты час — як пясок скрозь пальцы...

Я зараз перакладаю твор Картасара "Толькі золак". Ёсьць у ім такі фрагмент: чалавек слухае музыку ў слухаўках. Ён чуе толькі гэтую музыку, і больш нічога. Гэта таксама самота. Такая самота, што спрыяе творчасьці. Слухае музыку і каханая жанчына героя, якая сядзіць за сталом насупраць яго. Яна больш ні на што не зьвяртае ўвагу, а ён назірае. І бачыць кожны дробны жэст жанчыны, самыя лёгкія цені, што прабягаюць па ейным твары, адлюстроўваюць стан душы... Нешта падобнае ўяўляе сабою і творчасьць. Пісьменьнік нібыта таксама слухае музыку, але ня можа слухаць яе публічна. Нягледзячы на ўсе дачыненьні з іншымі людзьмі, уражаньні чалавека, пісьменьніцкае слова ўсё роўна па-сапраўднаму нараджаецца толькі на самоце.

Мне здаецца, што назва аповесьці Маркеса "Сто гадоў адзіноты" вельмі падыходзіць для Беларусі. Бо найвялікшая самота ў сьвеце — жыць у сваёй краіне, адчуваючы, што вакол — чужасьць.

Гутарыла
*Тацяна Сьнітко*



**Сямён Шарэцкі:**

НАША НІВА

# «Я зраблю ўсё, каб выбары адбыліся»

**Калі прэзыдэнцкія выбары, прызначаныя на 16 траўня, не адбудуцца, законным кіраўніком дзяржавы стане старшыня Вярхоўнага Савету Сямён Шарэцкі. Верагодна, што ў такім выпадку ў краіне ўсталюецца жорсткае супрацьстаяньне: законны, але бяззбройны Шарэцкі і ўзброены да зубоў, але нелегітымны Лукашэнка. Тады шмат, калі ня ўсё, будзе залежаць ад стойкасьці старшыні Вярхоўнага Савету. Сёньня ён пагадзіўся адказаць на пытаньні карэспандэнта «НН».**

**«НН»: Ці Вашыя маці й жонка не баяцца за Вас?**

С.Ш.: Маці ўжо старэнькая, а жонка ва ўсім цалкам мяне падтрымлівае: адступаць нельга. Яна ведае, што я іншым быць не магу. І сыны мае, і ўся сям'я, і ўсе сябры...

**«НН»: Вы былі таленавітым гаспадаром прадпрыемства, дарадцам прэм'ера, кіраўніком парлямэнту. Чаму Вы не пераехалі працаваць у Маскву, як вялікая частка нашай эліты?**

С.Ш.: У мяне такога жаданьня ніколі не ўзьнікала. Ніколі. Мяне ўпершыню яшчэ Старадубцаў запрашаў у свой час у Савет калгасаў... Я — беларус, і гэтым усё сказана.

**«НН»: Дарэчы, Старадубцаў, іншыя расейскія аграрыі добра ведаюць Вас, Старавойтава, Лявонава. Чаму яны маўчаць?**

С.Ш.: На жаль, большасьць расейскіх палітыкаў — імпэрыялісты. Шавінізм засьціць ім вочы. Таму Лукашэнку даруюць нават усе абразы, выпады на адрас расейскага прэзыдэнта. Я не чакаў у 1996 годзе, што дзеля сваіх інтарэсаў яны могуць так здрадзіць. У Расеі падтрымліваюць толькі тых, хто здае сваю радзіму. А сумленныя палітычныя сілы там не ва ўладзе. Што ж да Старавойтава... Такіх, як Старавойтаў, у Беларусі было ўсяго тры: ён, Ралько, Бядуля. Былыя кіраўнікі Беларусі ставілі яго нам, маладзейшым, у прыклад. Мы ім верылі і не памыліліся. У Старавойтаве не памыліліся, памыліліся ў кіраўніках.

**«НН»: А чаму маўчыць Бядуля?**

С.Ш.: А во пачапіў значок!.. у сэнат яго вылучылі. Я зь ім гаварыў... Як, кажу, вам ня сорамна... Бядуля па-руску гаворыць — как, кажу, вам не стыдно насіць гэты значок, прымаць яго з рук чалавека, які вашага сябра катуе? «Ну, знаеце...» — апусьціў ён вочы.

**«НН»: Ці не зьбіраецца апазыцыя ўвесьці Старавойтава і Лявонава ў ценявы ўрад?**

С.Ш.: Хутка ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі Канстытуцыі адбудуцца прэзыдэнцкія выбары. таму ні пра якія ценявыя ўрады сёньня гаварыць ня будзем. Гэта ўчарашні дзень. Цяпер проста трэба дапамагчы людзям скарыстацца сваім канстытуцыйным правам — абраць прэзыдэнта. Канстытуцыя кажа адназначна: кожныя пяць гадоў павінны адбывацца прэзыдэнцкія выбары. Ніхто ня можа адняць у людзей права абіраць сабе кіраўніка дзяржавы. Выбараў патрабуе і той эканамічны, палітычны ды нават псыхалягічны стан, у якім апынулася краіна. Апошнія заявы Лукашэнкі пра «я скручу галаву», ягоныя паводзіны яшчэ раз даказваюць: чалавек з такой псыхікай ня можа быць стваральнікам. Каб зьмяніць жыцьцё ў краіне, кожны грамадзянін павінен рэалізаваць свае канстытуцыйныя правы і выканаць свае канстытуцыйныя абавязкі.

**«НН»: Паводле Канстытуцыі, калі выбары не адбудуцца, Вы робіцеся выканаўцам абавязкаў кіраўніка дзяржавы. Якімі будуць Вашыя першыя крокі?**

С.Ш.: Я зраблю ўсё, каб выбары адбыліся і быў абраны прэзыдэнт. А гаварыць сёньня пра тое, «што будзе, калі», няварта — амаральна і антыканстытуцыйна.

**«НН»: Якія могуць быць варыянты разьвіцьця падзеяў на вясну-лета?**

С.Ш.: Усё будзе залежаць ад людзей. Мы ўсё робім, каб адбыліся выбары. Ужо створаны ўсе да адной тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі. Цяпер кандыдаты ў прэзыдэнты ствараюць свае ініцыятыўныя групы. Я ўпэўнены, што Міхаіл Чыгір зможа сабраць сто тысяч подпісаў. Думаю, сваё слова яшчэ скажа і Зянон Пазьняк. У яго ёсьць моцная структура. Могуць быць і іншыя кандыдатуры.

**«НН»: Чаму, на Вашую думку, некаторыя незалежныя выданьні занялі пазыцыю, блізкую да чаканьня, чаму яны імкнуцца згладзіць напружаньне, якое нарастае напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў? Баяцца?**

С.Ш.: Цяпер сяму-таму някепска жывецца ў апазыцыі. Калі ня будзе гэтага рэжыму, зь якім яны нібыта «вядуць барацьбу», скончыцца лёгкае жыцьцё. Але справа, нягледзячы ні на што, пайшла.

**«НН»: Як будзе праводзіцца галасаваньне на вёсках, дзе запалохаць людзей найпрасьцей?**

С.Ш.: А чаму вы думаеце, што ўсе кіраўнікі вэртыкалі будуць трымацца за Лукашэнку да канца? Навошта гэта ім? Кебіча ж яны самі здалі. Таму Лукашэнка і крычыць ім: «Надзену на вас наручнікі».

**«НН»: Калі ўсё ў Беларусі вернецца на свае месцы, ці застанецеся Вы ў актыўнай палітыцы, актыўнай эканоміцы, ці цалкам прысьвеціце сябе навуцы?**

С.Ш.: Я й цяпер знаходжу час для навукі, для пісьма. Завяршаю працу над кнігай, у якой разважаю пра беларускі шлях да таго, каб стаць гаспадарамі ва ўласным доме і людзьмі звацца.

**«НН»: Што ж, па-Вашаму, можа вярнуць чалавеку пачуцьцё гаспадара?**

С.Ш.: Найперш трэба, каб чалавек быў грамадзянінам, тады ён будзе гаспадаром.

**«НН»: А прыватная ўласнасьць?**

С.Ш.: Гэта само сабою. Нават у «Камуністычным маніфэсьце» прыводзіліся словы апанэнтаў, што, калі зьнікне прыватная ўласнасьць, пачнецца ўсеагульная лянота. Так і здарылася. Дыктатары імкнуцца ўсё абдзяржавіць: так лягчэй кіраваць людзьмі. Людзі майго пакаленьня доўга ішлі да праўды, да разуменьня дэмакратычных каштоўнасьцяў.

**«НН»: Ці XXI стагодзьдзе будзе для Беларусі шчасьлівейшым за XX?**

С.Ш.: Веру ў гэта. Беларусь павінна заняць «свой пачэсны пасад» у эўрапейскай сям'і. Мы павінны быць там. Што датычыць ваенных блёкаў, дык Беларусь павінна заставацца нэўтральнай. Швэйцарыя — вось нам прыклад у гэтым пляне.

**«НН»: Транзытная краіна Беларусь заўсёды будзе ў полі зацікаўленасьці Расеі. Якая арганізацыя дзяржаўных органаў і структураў кіраваньня ўласнасьцю могуць стаць зарукай ад таго, каб гэтая зацікаўленасьць не ператваралася ў дыктат?**

С.Ш.: У свой час Вялікае Княства Літоўскае пайшло на вунію з Польшчай, таму што Расея вымусіла яго на гэта сваімі паводзінамі, сьвірэпасьцю Івана Грознага. Так цяпер Расея сваёй імпэрскай палітыкай заганяе Прыбалтыку ў НАТО. Беларусь таксама павінна захоўваць права шукаць саюзаў на той выпадак, калі нехта будзе пагражаць яе незалежнасьці. Апроч таго, трэба памятаць, што, апроч правоў чалавека, існуюць яшчэ правы нацыі. Кожнага чалавека павінен абараняць закон, кожная «дарослая» нацыя павінна мець сваю дзяржаву, каб дасягнуць росквіту. Менавіта таму распаліся каляніяльныя імпэрыі, распаўся Савецкі Саюз. Менавіта таму ідуць такія працэсы ў сеньняшняй Расеі, і яны, дарэчы, моцна павялічваюць шанцы таго, што Расея можа вярнуцца да дыктатарскай улады.

**«НН»: Вы стаялі ля вытокаў Аграрнай партыі. Якая, па-Вашаму, партыйная сыстэма складзецца ў Беларусі заўтра?**

С.Ш.: Аграрная партыя была створаная як партыя пэўнага прафэсійнага сэктару. Гэта не зусім нармальна для дэмакратычнай дзяржавы, але на пераходным этапе яна была патрэбная, і ў будучыні вёсцы будзе патрэбная свая партыя.

**«НН»: У Прыбалтыцы рухачом глыбокіх грамадзкіх зьменаў на пачатку 90-х гадоў стаў саюз нацыянальнай інтэлігенцыі і сялянства. Ці магчымае нешта падобнае ў Беларусі?**

С.Ш.: У Беларусі трохі іншая сытуацыя. Сялянства было цалкам расьсяляненае, абдзяржаўленае, хутары не захаваліся — гэта ж ня тое, што ў ЗША, дзе 80% фэрмэраў маюць вышэйшую адукацыю; інтэлігенцыя была вынішчаная, кампартыя мела цалкам дэнацыяналізаваны характар. Беларуская кампартыя стваралася не ў Беларусі, і ня дзіва, што да Мазурава, калі не лічыць нядоўгага часу, калі быў Гікала, ёю кіравалі не беларусы.

**«НН»: Як Вы ацэньваеце дзейнасьць Мазурава й Машэрава?**

С.Ш.: У кнізе, пра якую я казаў, я ацэньваю Мазурава вельмі станоўча. Ён шмат зрабіў для Беларусі, як для эканомікі, так і для культуры. На 40-я ўгодкі ўтварэньня БССР зрабіў даклад па-беларуску — Хрушчоў яго пасьля за гэта граміў. А Машэраў... Машэраў дапускаў іншы раз вельмі балючыя для краіны эканамічныя памылкі. А часам даходзіла да сьмешнага. Неяк ён указваў кіраўнікам гаспадарак, што калі высокі ўраджай, дык трэба жаць яго на высокім зрэзе. Калі збожжа ўродзіць, дык яно паляжа, а каманда йшла — на высокім зрэзе. Машэраў быў найперш добры прапагандыст.

**«НН»: Якой Вам бачыцца сёньня роля Рады БНР?**

С.Ш.: Яна павінна захоўваць ідэалы незалежнасьці, яднаць беларускую эміграцыю і сусьветную супольнасьць у падтрымку беларускай дэмакратыі. Але ўсё вырашыцца тут, а ня там. Беларусы сьвету павінны зьвяртацца найперш да беларускай інтэлігенцыі. Я не магу зразумець, чаму беларуская інтэлігенцыя, навукоўцы маўчаць, што імі кіруе палкоўнік расейскай арміі

Замяталін, што ўлады даюць разьвіцца прафашысцкім сілам? Маўчаньне — рабская псыхалёгія.

**«НН»: Калі зайшло пра сёньняшнюю інтэлігенцыю, хто з нашых творцаў Вам найбольш блізкі?**

С.Ш.: Шмат раюся з Гілевічам, Бураўкіным. І вельмі паважаю Васіля Быкава. Дужа паважаю. Проста як бацьку.

**«НН»: Як Вы думаеце, Быкаў вернецца ў траўні?**

С.Ш.: Мы чакаем вяртаньня. Я хацеў бы, каб гэты чалавек быў заўжды на сваёй зямлі, каб яму было тут утульна. Калі пройдзе цяперашняе цемрашальства, мы зробім усё для гэтага чалавека. Такія людзі — гонар не адной нацыі, а ўсяго чалавецтва. Такіх людзей мала. У творах Быкава злучыліся яснасьць чэхаўскай прозы і здольнасьць пранікнуць у глыбіні чалавечае душы, якою валодаў Дастаеўскі.

**«НН»: Вы былі адзіным старшынём калгасу ў былым Савецкім Саюзе, які ўваходзіў ва ўправу саюзнага Фонду Культуры, і цяпер застаецеся ў радзе БФК. Вы пішаце вершы. Традыцыйнае нашаніўскае пытаньне: якія беларускія творы найбольш дарагія для Вас?**

С.Ш.: «Новая зямля» Якуба Коласа — такая магутная, сьветлая. «Нёман» Анатоля Астрэйкі, якога я яшчэ маладым кіраўніком прывозіў да сябе ў гаспадарку. Творы Канстанцыі Буйло — за тое, што яна стварыла паэзію, сугучную народнай душы — яе «Люблю мой край, старонку гэту» (які талент трэба мець, каб напісаць такое ў 16 гадоў!) ведаюць у кожнай беларускай вёсцы, сьпяваюць дагэтуль, асабліва калі вып'юць чарку. Акрамя таго, я адчуваю своеасаблівую роднасьць зь ёю, папрацаваўшы восем гадоў у тых мясьцінах, якія натхнялі яе, на Валожыншчыне. Мы там, у Сугвяздах, дарэчы, адкрылі мэмарыяльную дошку паэтцы. Так што хоць Буйло й не зусім мая зямлячка, яна дарагая мне, як і мой зямляка Адам Міцкевіч.

**«НН»: А цяпер Вы кім больш пачуваецеся: менчуком, валожынцам ці навагрудцам?**

С.Ш.: Навагрудцам. Там прайшло дзяцінства, там я сфармаваўся як чалавек, як грамадзянін, там я пачаў працаваць у 1959 годзе, калі мае землякі абралі мяне, яшчэ студэнта, на намесьніка старшыні нашага калгасу — тады ён гучна называўся «Зорка камунізму» — і я папрацаваў там 10 гадоў. А ў Валожын я паехаў ужо амаль доктарам навук. 1 верасьня прыехаў туды на працу, а 21 абараніў доктарскую.

**«НН»: Як Старшыня Вярхоўнага Савету Вы шмат зрабілі, каб вярнуць на бацькаўшчыну Лаўрышаўскае эвангельле. Вы надаеце гэтаму вяртаньню нейкі сымбалічны сэнс?**

С.Ш.: Яно не вярнулася, яно вернецца яшчэ. У вёску Лаўрышава вярнуўся Елісей Лаўрышаўскі. Помнік яму адкрылі ў 1996 годзе. Польскія ўлады паабяцалі мне, што і кніга вернецца. Сымбалічны? Проста трэба працаваць зь людзьмі і для людзей. Эканоміка не бывае без культуры. Эканоміка ж ня дзеля самой сябе існуе, а каб чалавек мог задавальняць свае патрэбы, прычым ня толькі элементарныя, але й вышэйшыя, духоўныя. Я шчэ старшынёй калгасу зразумеў: кіраўнік павінен дбаць пра людзкое. І тады людзі добра працуюць. У Дорах пабудавалі царкву, у Яршэвічах адбудавалі. У Дорах паставілі помнік землякам, спаленым жыўцом у царкве фашыстамі. Людзі пра гэта не забываюцца.

**«НН»: Тэмай апошняга нумару нашай газэты было: што можа аб'яднаць беларусаў. Што, па-Вашаму?**

С.Ш.: Беларусаў можа аб'яднаць адно — дзяржаўнасьць. А ўжо ў дзяржаве разьбярэмся, якая мова павінна быць дзяржаўнаю, якая сымболіка павінна быць дзяржаўнаю. Імі стануць беларуская мова й нацыянальная сымболіка, як і ва ўсіх дэмакратычных дзяржавах, як ва ўсіх дзяржавах, што ўтварыліся пасьля распаду СССР. Сёньняшняя сымболіка — прыдуманая, гістарычная ж — здабытак нацыі. І вырашыць гэта парлямэнт. Той рэфэрэндум, які ўсё перакруціў, быў незаконным. Праз рэфэрэндум можна працягчы любое рашэньне. Нездарма Гітлер любіў арганізоўваць рэфэрэндумы. Затое ў Амэрыцы, якая зьяўляецца прыкладам дэмакратыі, ніколі не арганізоўвалі фэдэральных рэфэрэндумаў.

**«НН»: Вы калісьці сказалі, што будзеце весьці па-беларуску паседжаньні парлямэнту па пытаньнях культуры, па-расейску — па пытаньнях эканомікі...**

С.Ш.: Я сказаў тады: пакуль што. Пакуль большасьць дэпутатаў ня пройдзе курсаў беларускай мовы. Яны павінны былі адкрыцца ўвосені, але прыйшла дыктатура. Беларуская мова павінна быць адзінай дзяржаўнай. Хай людзі размаўляюць на якой хочаш мове, але калі хочаш быць начальнікам, ты павінен валодаць беларускай мовай. Не валодаеш — ня будзеш начальнікам. Ненармальная сытуацыя, калі беларуская мова абслугоўвае толькі сфэру культуры, павінна быць зьмененая. Мовай дзяржаўных установаў мусіць быць беларуская.

**Гутарыў Андрэй Дынько**



# Зварот

## Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвілы з нагоды 81-х угодкаў абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці

Дарагія суродзічы!

Зноў чорная хмара вісіць над Беларусяй. Зноў, як і чарнобыльская, надышла яна з Усходу. У надзеі на кавалак хлеба некаторыя гатовыя зноў зьяднаць свой лёс з адвечным захопнікам. Кажуць, што народ наш няжыцьцяздольны. 81 год таму нашыя дзяды абвесьцілі сьвету, што яны ЁСЬЦЬ жыцьцяздольнымі, і што яны ГАСПАДАРЫ на сваёй зямлі. Сёньня мы адзначаем гэты вялікі дзень — калі народ наш здабыў права «людзьмі звацца» і людзьмі быць.

У гэты памятны дзень я хацела б, каб кожны з нас задумаўся над тым, што ён можа зрабіць, каб не дапусьціць да новага гвалту над беларускім народам, каб народ наш выратаваўся ад новай бяды — інтэграцыі ў расейскую імпэрыю. Калі мы гэтага ня зробім, мы зноў прачнемся ў няволі. І, як кажа Васіль Быкаў, «той раз — назаўжды». Масква больш ня выпусьціць нас з кіпцюроў, і трэба будзе ў «крывавых муках» ізноў здабываць страчаную людзкую годнасьць.

Дарагія суродзічы, на пасадзе прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь сёньня ня «свой чалавек», а маскоўскі калябарант, які працуе выключна на карысьць імпэрыі. Месяц пасьля таго, як кляўся ў сваім навагоднім пасланьні, што незалежнасьць Рэспублікі Беларусь — рэч «сьвятая», ён ужо дзеліцца сваімі марамі пра ваенную магутнасьць новай імпэрыі.

Дарагія мае сёстры-беларускі, зьвяртаюся да вас, бо так, як і вы, бясконца люблю наш край. Няўжо вы дазволіце, каб вашыя сыны і ўнукі зноў паміралі за чужую імпэрыю? Яшчэ не запозна сказаць Лукашэнку ды яго маскоўскім панам: годзе ўжо нас дурыць. МЫ ХОЧАМ ЖЫЦЬ У НАШАЙ УЛАСНАЙ ДЗЯРЖАВЕ, БЯЗ СТРАХУ, БЯЗ ВОЙНАЎ, ЖЫЦЬ ДРУЖНА З НАШЫМІ СУСЕДЗЯМІ, АЛЕ АДНАЧАСНА БЫЦЬ ГАСПАДАРАМІ НА СВАЁЙ ЗЯМЛІ. МЫ ХОЧАМ ЖЫЦЬ У ДЭМАКРАТЫЧНАЙ І НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ.

Дарагія суродзічы, прашу і заклікаю вас, не дапусьцеце да ліквідацыі нашай дзяржавы! Ад вас залежыць будучыня вашых дзетак, вашых унукаў. Не пакіньце ім у спадчыну забраны, паняволены край заміж вольнай, заможнай і гордай Бацькаўшчыны. Толькі вы можаце не дапусьціць яе загібелі. Разам мы яе адбудуем, вылечым ад ейных боляў і ўзьнясем на сьветлы пасад.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

*Івонка Сурвіла,*
*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

---

**BELARUSIAN CONGRESS COMMITTEE OF AMERICA**
**(БЕЛАРУСКІ КАНГРЭСАВЫ КАМІТЭТ АМЭРЫКІ)**
724 WEST TANTALLON DRIVE, FORT WASHINGTON, MARYLAND 20744
PHONE: (301) - 292-2610
FAX: (301) - 292-8140
ELEVENTH BELARUSIAN CONGRESS OF AMERICA



САКАВІК -- 1999

Дарагія суродзічы!

Дзень 25-га сакавіка -- гэта дзень нашага нацыянальнага ўздыму, дзень волі Беларусі, дзень адраджэньня беларускае дзяржавы.

Сёньняшні ўрад Беларусі, пачынаючы ад прэзыдэнцкае адміністрацыі да парлямэнту, усталёванага Лукашэнкам -- гэта камуністычнае зборышча, кіруючую ролю ў якім займаюць у большасьці чужынцы, якія зацікаўлены толькі ў адным -- утрыманьні ўлады над народам Беларусі. Яны загналі нашу Бацькаўшчыну ў палітычны і эканамічны тупік, а наш народ нагэтулькі запалохалі, што ён баіцца выказаць сваю думку, не адважваецца ганьбіць учынкі ворагаў беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Аб'яднаўшыся навакол ідэі барацьбы за незалежнасьць, і ведаючы, што разнастайнасьць поглядаў стымулюе людзкую творчасьць, мы павінны зрабіць усё магчымае, каб дапамагчы нашаму народу вызваліцца з ланцугоў абыякавасьці і набрацца сілы для барацьбы за аднаўленьне поўнае беларускае незалежнасьці.

Верачы ў здзейсьняньне ідэялаў незалежнасьці, будзем нашым шматгалосым хорам, разам з нашай патрыёткай-пакутніцай Ларысай Геніюш, паўтараць і верыць у яе прыгожыя, абнадзейлівыя радкі:

І ня сьціхне песьня ў Прынямоньні,
І ня зьгіне мова на Дняпры,
Прыйдзе час і водгульле Пагоні
Да сялібаў данясуць вятры!

Залунае сонечна Пагоня,
Мужны рыцар, крыж і белы конь
І народ наш болей не застогне,
Што прайшоў пакуты і агонь!

Жыве Беларусь!

Міхась Сенька
Сакратар

Расьціслаў Завістовіч
Старшыня

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

# Абаронім незалежнасць нашай дзяржавы!

*Народная Воля*

Год 1999-ы, які мы зусім нядаўна сустракалі, імпэтна набірае абароты. Ужо не за гарамі і вясна — час, які звычайна нясе людзям светлыя, радасныя надзеі. Ці прынясе ён іх сёлета — адзін Бог ведае. Пакуль што — усе прагнозы нічога добрага не абяцаюць. Настройвацца на святочны лад, весяліцца і цешыцца, радуючыся жыццю, дастатку і дабрабыту, не выпадае. На жаль, ні для весялосці, ні для суцяшэння падстаў у нас няма. Пагалоўнай большыні грамадзян краіны стала вельмі цяжка жыць і з кожным днём становіцца яшчэ цяжэй. Рэзка абазначылася сацыяльнае расслаенне насельніцтва і працягвае паглыбляцца далей. Тыя, што безаглядна рабуюць краіну, раскрадаюць скарбы народа, або займаюцца разбоем і рабаваннем людзей, — яны раскошнічаюць, жывуць прыпяваючы. А тыя, каму сумленне не дазваляе ні рабаваць, ні красці, перабіваюцца з бульбы на квас, а многія, асабліва састарэлыя пенсіянеры, шукаюць што-небудзь прыгоднае для спажытку на сметніках. Канешне ж пра гэта ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі не паведамляецца, наадварот, там кожны дзень ідуць аптымістычныя рэляцыі пра значныя вытворчыя поспехі і дасягненні. Да якога цынізму, а, можна сказаць, і да якога абсурду дайшлі гэтыя нашыя СМІ ў апраўданні таго, што апраўдаць нельга, сведчыць нядаўняя заява з тэлеэкрана наступнага зместу: "Канешне, сёння нам жыць цяжка, але ж не так, як было ў блакадным Ленінградзе. Так што трэба цярпець...". Адным словам: радуйцеся, людзі! З голаду — сотнямі тысяч, як калісь у Ленінградзе, — мы яшчэ, дзякаваць Богу, не паміраем.

І ўсё гэта — на фоне жахлівай чарнобыльскай трагедыі, ад чаго яшчэ больш горка і балюча. Чарнобыль фізічны, ад якога вымірае нацыя, ад якога ўсё больш нашых маладых жанчын пакутуюць бяздзетнасцю, няйначай у сілу нейкага двайнога пракляцця, усё больш спалучаецца з Чарнобылем духоўным, які раз'ядае і мярцвіць душы. Дэмагогія, крывадушша і хлусня ў такой меры насычаюць грамадскую атмасферу ў краіне, што людзі ўжо канчаткова перастаюць верыць каму б то ні было, робяцца няздольнымі адрозніваць наогул, дзе праўда, а дзе ашуканства і фальш. Людзі трацяць маральную арыентацыю. Людзі не бачаць выйсця. І таму — у разгубленасці, нават у роспачы. На што спадзявацца? Чаго чакаць? Што адбываецца ў краіне?

Колькі гадоў назад у Беларусі паступова, але няўхільна і вельмі напорыста, гвалтоўна, жыццё пачало перайначвацца на нейкі недарэчны абсурдны лад, падганяцца пад нейкі нялюдскі, пачварны стандарт, дзе ўсё мераецца зусім не тымі меркамі, да якіх нармальны сучасны чалавек прывык; памалу-патроху сталі браць верх прымітыў і пошласць, прытворства і падман, жульніцтва і юродства, прэтэнцыёзнасць і пыха, ахламонства і дурнота. І ўсяго гэтага "дабра" стала так многа — наўкол і скрозь, так многа, што чалавек ужо не можа і выбавіцца з яго. Ён адчувае, што ўсё гэта ўцягвае і засмоктвае яго, што яшчэ трохі — і ён можа звар'яцець ад гэтага кашмару, ад гэтай пачварнай абсурднай рэальнасці. Уражанне — нібы ты жывеш у атмасферы нейкай усеахопнай татальнай хлусні, брутальнай палітычнай мімікрыі, грубай імітацыі служэння праўдзе і людзям.

Невыпадкова, што ў апошні час мы, нацыя такога трагічнага лёсу, робімся ў цывілізаваным свеце прадметам насмешак і анекдотаў. Наша імя становіцца ў самым горшым сэнсе назыўным у вуснах грамадзян блізкага і далёкага замежжа.



Нават у парламентах брацкіх славянскіх краін гучаць галасы накшталт: "Дык што — будзем апускацца да таго, да чаго апусціліся беларусы?". Нас успрымаюць як нацыю, якая не можа, не здольная паглядзець на сябе збоку, як нацыю, пазбаўленую пачуцця гонару і годнасці, як нацыю дзікуноў і манкуртаў, што выракаюцца не толькі сваёй гістарычнай памяці, але нават сваёй роднай мовы! Мовы — якая ёсць не толькі душа народа, аснова нацыянальнай культуры, але ёсць і галоўная гарантыя захавання нацыі.

А між тым у Беларусі ёсць усе падставы для таго, каб заняць годнае месца ў супольнасці краін і народаў свету. Па-першае, ёсць глыбокія, магутныя традыцыі нацыянальнай духоўнасці і культуры, ёсць незлічоныя мастацкія скарбы, ёсць волаты духу, у якіх увасоблены творчы геній народа — ад Скарыны і Сапегі да Купалы і Коласа, да Багдановіча і Гарэцкага. Па-другое, ёсць не з горшых стартавы ўзровень эканомікі, ёсць прыродныя і інтэлектуальныя рэсурсы, ёсць геапалітычныя выгады. Дык у чым жа справа? Чаму Беларусь па галоўных эканамічна-сацыяльных паказчыках — на апошнім месцы ў Еўропе? Таму, відавочна, што наш народ або не хоча, або не можа гэтыя магчымасці выкарыстаць. Паколькі паверыць у першае нельга, то застаецца думаць пра другое: ён не можа гэта зрабіць. Дакладней — яму не даюць гэта зрабіць. Хто не дае? Зразумела — хто: тыя сілы, якія і давялі яго да жабрацкага стану, а дзяржаву ператварылі ў пасмешышча.

Той клубок найскладаных вузлавых праблем, які ўтварыўся ў Беларусі, праблем эканамічных, сацыяльных, экалагічных, палітычных, культуралагічных, маральна-этычных, можна разматаць-развязаць толькі аб'яднанымі творчымі сіламі народа, толькі супольнымі намаганнямі ўсіх — гэта адназначна. Інача́й сказаць — толькі на шляхах канструктыўнага супрацоўніцтва ўсіх грамадска-палітычных сіл краіны, на шляхах духоўна-маральнай кансалідацыі нацыі. Але як, на якім грунце кансалідавацца і аб'ядноўвацца? На грунце здрады нацыянальным інтарэсам народа і краіны? На грунце ідэі аднаўлення імперыі — пад сцягам брацтва славян? На грунце здачы суверэннай, незалежнай Рэспублікі Беларусь пад апеку суседняй дзяржаве і ператварэння яе ў "северо-западный" край. Дык мы ж ужо былі гэтым краем і ведаем, што гэта такое!..

Дарагія брацці-беларусы і ўсе грамадзяне рэспублікі! У любой краіне свету спакон вякоў найпершым грамадскім ідэалам, можна сказаць, святыняй са святынь быў і ёсць ідэал свабоды, дзяржаўнай незалежнасці. Многія народы сотнямі гадоў вялі ўпартае змаганне за здабыццё дзяржаўнай незалежнасці — і здабывалі яе, а здабыўшы, — ахоўвалі і баранілі, як маці бароніць дзіця. І першым наказам кіраўніцтву — парламенту, ураду, прэзідэнту — рабілі гэты наказ: ва ўсім і ўсюды абараняць суверэнітэт і незалежнасць сваёй дзяржавы. Гэта такая агульначалавечая, узаконеная за тысячагоддзі самім жыццём ісціна, сумнявацца ў якой ці абмяркоўваць якую проста непрыстойна. Жыць поўным гаспадаром у сваім доме — свяшчэннае права кожнага народа, і кожны народ гэтае права адстойвае, часам вельмі дарагою цаной — вялікай крывёю. Таму гаварыць, што беларускі народ сам, добраахвотна адмаўляецца ад сваёй дзяржаўнай незалежнасці — гэта, выбачайце, хлусня. Так, пэўную частку насельніцтва, палітычна недасведчаную і нацыянальна маласвядомую, удалося з тропу збіць, асабліва — бессаромнай сацыяльнай дэмагогіяй, абяцаннем матэрыяльных даброт. Менавіта на недасведчанасць і несвядомасць робяць стаўку варожыя нашай нацыянальнай свабодзе сілы. Сілы, якія ўжо каторы год праводзяць у Беларусі — зусім непрыхавана і бесцырымонна — антынацыянальны, антыбеларускі курс.

Даходзіць да нечуванага нахабства, да публічнага здзеку з усяго народа: у газетах, што выходзяць у суверэннай дзяржаве Беларусь, публікуюцца матэрыялы, адкрыта скіраваныя супроць беларускай нацыянальнай ідэі і беларускай дзяржаўнасці, матэрыялы, якія не толькі заклікаюць ліквідаваць нашу дзяржаву, загнаць яе ў склад Расійскай Федэрацыі, але і адкрыта абвяшчаюць, што наогул ніякага асобнага самастойнага беларускага этнасу, беларускага народа, не было і няма і што ніякай асобнай самастойнай беларускай мовы не было і няма. Удумаемся толькі, што гэта такое! Дзесяцімільённаму славянскаму народу публічна крычаць у твар "цябе няма!", публічна абражаюць і здзекуюцца самым нахабным чынам, і няма каму за яго заступіцца: дзяржава і не чуе, і не бачыць, дзяржава не хоча прызваць яўна ашалелых ворагаў беларушчыны да парадку, прыцягнуць да адказнасці. Які і дзе ў свеце ўрад пацярпеў бы такое? Нідзе — ніякі. Толькі ў адной кропцы свету магчыма такое — у Беларусі. Дык што ж гэта, дазвольце спытаць, за дзяржава? І што за дзяржаўныя мужы ёю кіруюць?

Натуральна можа ўзнікнуць пытанне: а што ж сам народ? А чаму сам народ не бароніць свабоду і незалежнасць сваёй краіны, свой нацыянальны гонар, сваю мову, сваю гістарычную памяць? Чаму ён маўчыць? А ён не маўчыць. Але яму не даюць сказаць на ўвесь голас — так, каб пачуў цэлы свет. Дзе, з якіх трыбун ён можа гэта сказаць? З тэлеэкрана? Ці па радыё? Ці са старонак дзяржаўных газет? І аднак жа, паўтараю, народ не маўчыць. Ён гаворыць. І ўсё больш шырока, усё больш галасней. Пацвярджэннем гэтага стаў і нядаўні Кангрэс дэмакратычных сіл Беларусі, які сабраў і аб'яднаў прадстаўнікоў розных сацыяльных катэгорый, розных грамадскіх груп і палітычных партый. Гэта патрабаванне часу — аб'яднаць усе дэмакратычныя сілы Беларусі ў апазіцыйны да сучаснага рэжыму рух. Апазіцыйны — таму што ні адзін палітычны і нацыянальна свядомы сумленны чалавек не можа падтрымліваць рэжым, які галоўнай мэтай сваёй дзейнасці мае здачу нашай Бацькаўшчыны другой дзяржаве. Дарэчы, апазіцыя ў грамадска-палітычным жыцці любой дэмакратычнай краіны — з'ява зусім натуральная, больш таго — неабходная. Толькі так яна і ўспрымаецца. Ну а што ж у нас? А ў нас — ва ўсіх эшалонах улады, на ўсіх узроўнях адносіны да апазіцыйна настроеных грамадзян ваяўніча непрымірымыя. Ніякага жадання павесці з імі дыялог, выслухаць, зразумець. Узровень рэагавання на законныя дзеянні апазіцыі часцей за ўсё выклікае абурэнне. Нярэдка — гэта самае што ні ёсць хамства, асабліва ў электронных сродках масавай інфармацыі. Але ж ва ўзаемадачыненнях грамадскіх сіл хамства не можа быць аргументам, довадам і доказам праваты. Хамства нічога даказаць не можа, апрача амаральнасці і бяссілля хама. Ва ўлады ёсць толькі адзін цывілізаваны, не дубінкавы і не хамскі спосаб перамагчы апазіцыю — даказаць справамі, на практыцы, рэальнымі набыткамі і дасягненнямі, што эканамічны і палітычны курс дзяржавы верны, перспектыўны і дае канкрэтныя станоўчыя вынікі на ўсіх напрамках эканамічна-сацыяльнай і дзяржаўна-палітычнай дзейнасці.

Можна з пэўнасцю гаварыць, што з недалёкага мінулага, з часоў панавання партыйнай дыктатуры і адміністрацыйна-каманднай сістэмы сённяшнім рэжымам узята на ўзбраенне самае горшае. У тым ліку — прысваенне сабе манапольнага права на патрыятызм, на вернасць народу, а галоўнае — на ісціну, на беспагрэшнае, беспамылковае бачанне і разуменне стану рэчаў. Сёння гэтакі манапалізм дасягнуў небывалага ўзроўню, што ва ўмовах абвешчанай і дэкларуемай дэмакратыі выглядае яўным анахранізмам. Па гэтай анахранічнай логіцы ўсе тыя, хто да рэжыму ставіцца крытычна, патрыятычных пачуццяў не маюць, Беларусі не любяць, беларускі народ не шануюць і зрабіць на беларускай зямлі жыццё лепшым не хочуць. А можа, усё якраз наадварот? Можа, не любяць Беларусь тыя, хто яе прадае?

Будзем называць рэчы сваімі імёнамі: ігнараванне патрабаванняў апазіцыі аднавіць дзейнасць Канстытуцыі 1994 года ёсць не проста абыякавасць да лёсу народа і краіны, а злачынная безадказнасць перад гэтым народам і краінай, злачынная безадказнасць перад нашчадкамі, перад усімі наступнымі пакаленнямі, паколькі ад гэтага будзе залежыць і іхняе жыццё, іхні лёс.

Сёння дзяржаўны статус Беларусі падвергнуты цяжкаму выпрабаванню. Наша нацыянальна-дзяржаўная прысутнасць у свеце знаходзіцца пад вялікай пагрозай. Абавязак усіх сумленных грамадзян Беларусі — не дапусціць гэтай жахлівай нацыянальнай катастрофы, гэтай непапраўнай трагедыі. Выстаім, абаронім незалежнасць нашай дзяржавы — тады і зробім прыстойным жыццё ў сваім родным доме. Абавязкова зробім! Народ мы трывалы, жывучы, працавіты, цягавіты дый таленавіты — дык чаму ж не зробім? Зробім! Толькі пры ўмове, што не дадзім, не дазволім імпершавіністычным драпежнікам расправіцца з нашай нацыянальна-дзяржаўнай свабодай.

---

**Генадзь БУРАЎКІН** "Народная Воля"

# *Боль і трывога*

Нясцерпны боль адольвае многіх з нас за сённяшні бядотны стан нашай спрадвечнай зямлі. Пакутная трывога на душы за яе будучыню.

Сапраўды, крыўдна і горка, калі пры слове "Беларусь" у свеце ўзгадваюць не ціхія лясы і азёры, чароўныя песні і легенды, не нашых мудрых герояў і прарокаў, а расстраляныя паветраныя шары і пабітых проста ў зале пасяджэнняў парламента дэпутатаў, кінутых за краты бязвусых хлапчукоў і гвалтоўна парушаныя законы, выгнаных з рэзідэнцый замежных паслоў і бессаромныя ўсхваленні гітлераўскага жалезнага "парадку". Сорамна і горка, што цярплівы, працавіты народ з-за неадукаванасці і самадурства вышэйшых чыноўнікаў стаў палітычным ізгоем у свеце і траціць свае надарваныя сілы і многія гады не на цяжкі і пакручасты ўздым да вышынь цывілізацыі і дабрабыту, а на знясільваючае цялёпканне ў гнілым балоце эканамічных хімераў і амярцвелых ідэалагічных догмаў. Колькі пры гэтым праліта ўпустую салёнага працоўнага поту, колькі паламана светлых чалавечых лёсаў, колькі загублена талентаў, знявечана традыцый, колькі абрабавана і спаганена душ!.. Гісторыя, безумоўна, усё падлічыць і ацэніць. Але ж і мы не павінны спалохана трываць зняваги, абачліва маўчаць, спадзеючыся на розум суседзяў ды на салідарнасць і справядлівасць міжнароднага супольніцтва. Мы павінны ўзнімаць свой голас, патрабаваць, дабівацца...

Я хачу гаварыць сёння пра матэрыю святую, тонкую і вечную — пра мілую нашу, родную нашу беларускую мову, якая чамусьці стала для цяперашняга таталітарнага рэжыму ледзь не заклятым ворагам. Афіцыйная дзяржаўная палітыка ў апошнія гады адкрыта выцясняе яе з усіх асноўных сфераў грамадскага жыцця, ігнаруе і дыскрымінуе ў дзейнасці вышэйшых органаў улады, судоў, сродкаў масавай інфармацыі, сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў. З прыходам на пасаду прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі гэта набыло паўсюдна абвальны характар.

Практычна ўся дакументацыя ў Рэспубліцы Беларусь пераведзена на рускую мову. Колькасць дзяцей у першых беларускамоўных класах скарацілася з 75,3 працэнта ў 1993—1994 навучальным годзе да 28,7 працэнта ў 1997—1998 навучальным годзе. У сталіцы ж — Мінску — паказчыкі проста жахлівыя: 58,6 працэнта ў 1994 годзе і 4,8 працэнта ў 1998 годзе. У Магілёве набор у першыя беларускія класы ў 1997—1998 навучальным годзе наогул не праводзіўся. Усе дапаможнікі для тых, хто збіраецца паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы, і ўсе экзаменацыйныя білеты для іх афармляюцца звычайна толькі на рускай мове. Беларусь — унікальная краіна ў свеце, дзе няма ніводнай нацыянальнай вышэйшай навучальнай установы. Беларуская мова — дзяржаўная мова Рэспублікі Беларусь — выводзіцца з дыпламатычнай практыкі, аб чым яскрава сведчаць падпісаныя 25 снежня мінулага года ў Маскве прэзідэнтамі Расіі і Беларусі "саюзныя" дакументы, абодва экземпляры якіх учынены на адной — рускай мове. (Калі такі грубы для міжнароднай практыкі "ляп" можна пры вялікім жаданні спісаць на недасведчанасць нашых маладых дыпламатаў, дык няўважлівасць іх шматвопытных расійскіх калег сведчыць пра сапраўдную, рэальную так званую "роўнасць" у дачыненнях дзвюх краін.) Зазірніце ў любую кнігарню, у любы газетны кіёск (гэта я кажу перш за ўсё для нашых шаноўных гасцей) — і вы на ўласныя вочы ўбачыце, колькі там рускамоўных і колькі беларускамоўных выданняў. І як, калі не хлуснёй і здзекам, захочаце вы пасля гэтага назваць заяву нашага красамоўнага прэзідэнта на святкаванні 75-годдзя Беларускага дзяржаўнага універсітэта: "Сёння ў нас створаны аптымальныя ўмовы для свабоднага і натуральнага развіцця беларускай мовы і беларускай культуры"?! Як кажуць, хоць бы ўжо памаўчаў...

Вялікі паэт Адам Міцкевіч, які выдатна ведаў многія мовы, стагоддзе таму назваў беларускую мову надзвычай багатай і мілагучнай з самымі старажытнымі славянскімі каранямі. Вялікі ж "інтэгратар" нашага часу, які толкам не валодае ніводнай мовай, прынародна сцвярджае, што "беларуская мова — бедная мова" і "па-беларуску нельга выказваць штосьці вялікае...". Ну што ж, хай бы Аляксандр Лукашэнка меў свае асабістую думку. Бог з ім. Калі б не адна, так бы мовіць, пікантная рэч: Міцкевіч — геніяльны **польскі** паэт, а Лукашэнка —

першы **беларускі** прэзідэнт, гарант, як ён сам любіць паўтараць, Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, дзе чорным па белым запісаны дзяржаўны статус нашай роднай мовы.

Вось вам яшчэ адзін парадокс нашай унікальнай унітарнай краіны.

Менавіта прэзідэнт ініцыяваў славуты майскі рэферэндум 1995 года, які занёс над мовай Купалы і Коласа, Багдановіча і Гарэцкага, Танка і Мележа, Панчанкі і Караткевіча, Быкава і Брыля цяжкую сякеру пагрозы знікнення. Менавіта прэзідэнт пішчом цягне нашу краіну ў "небывалы" саюз з паўкрымінальнай, імперскай і згаладнелай сённяшняй Расіяй, крок за крокам — дзеля асабістых амбіцый — аддаючы такі доўгачаканы наш суверэнітэт. Сваімі рэферэндумамі, сваімі паспешлівымі інтэграцыйнымі пагадненнямі ён па жывому, бяздумна і трагічна раз'ядноўвае народ Беларусі, супрацьпастаўляючы карэнных і некарэнных яе жыхароў, "свядомых" і "несвядомых" яе грамадзян.

Вы заўважылі адну асаблівасць шумнай інтэграцыйнай палітычнай кампаніі: найбольш назойлівыя крыкі за стварэнне новай адзінай дзяржавы гучаць не на беларускай мове, найбольш стараюцца розныя адстаўныя палкоўнікі, што прыехалі сюды "на ловлю счастья и чинов"? Гэтыя былыя палітрукі і штабісты так утульна ў нас уладкаваліся, што нават пачынаюць перад перапісам насельніцтва хітранька падсоўваць таму-сяму свае саматужныя падлікі, па якіх быццам, калі добра разабрацца, дык беларусаў у Беларусі нейкіх працэнтаў 40, не болей. Хаця па перапісе 1989 года беларусаў у БССР было 77,9 працэнта насельніцтва. І прэзідэнт наш з відавочнай радасцю падхоплівае гэтую антыдзяржаўную лухту. Яно ж так, дарэчы: няма беларусаў — няма і праклятага нацыянальнага пытання, няма беларускай гісторыі, культуры, мовы.

Мне здаецца, што месца і роля беларускай мовы, нацыянальнай памяці ў гісторыі і ў сённяшнім духоўным жыцці Беларусі недаацэньваюць нават некаторыя нашы дэмакратычныя дзеячы. Востра ставячы (зусім справядліва) эканамічныя, палітычныя, сацыяльныя праблемы і задачы, яны часам забываюць, што Беларусь, якая не гаворыць па-беларуску, — гэта ўжо не Беларусь, а "Северо-Западный край". Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ў нядаўнім звароце да ўсіх дэмакратычных партый і сіл прыцягвала да гэтага ўвагу. І я зноў хачу паўтарыць, што змаганне за родную мову — гэта змаганне за нашу волю, за суверэнную шчаслівую Беларусь.

Амаль 80 гадоў таму наш геній Янка Купала пісаў: "На беларускай зямлі было і цяпер ёсць шмат фальшывых прарокаў, шмат рэнегацкіх душ, што за лыжку поснай поліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам, але гэтага няма чаго баяцца... Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыйдуць новыя людзі, новыя прарокі і будуць па-божаму над фальшывымі прарокамі і прадажнымі душамі суды судзіць, з пакалення ў пакаленне праклёнцамі ўспамінаць.

Дык не зважайма на здраду, а пойдзем далей сваім цярністым, але святляным шляхам, па якім дагэтуль ішлі, з верай і надзеяй к... вечнаму сонцу праўды і справядлівасці для ўсіх і для кожнага паасобку...

І я веру, што будзе воляю народа зменены сённяшні аўтарытарны, малакультурны рэжым і гісторыя свой непазбежны, суровы прысуд усім ворагам Беларушчыны, усім гандлярам нашай незалежнасцю, усім здрайцам нашай дзяржаўнасці, усім махлярам і манкуртам абвесціць на нашай роднай, нашай святой і вечнай беларускай мове. Так будзе!".

*Перажыла наша родная мова*
*І Бенкендорфа, і Мураўёва,*
*Панскія здзекі,*
*Чэкісцкія чысткі,*
*Рогат імперскі,*
*Вырак фашысцкі...*
*Тых,*
*Што з мякінаю ў галаве,*
*Перажыве!..*

# 81-я ЎГОДКІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ Ў НЬЮ-ЁРКУ

**У нядзелю 21-га сакавіка г. г. ў Мангатане, цэнтральным раёне Нью-Ёрку, адбылася ўрачыстасьць ушанаваньня Дня Волі, арганізаваная мясцовым аддзелам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Апошнім часам аддзел актывізаваўся дзякуючы новапрыбылым патрыётам зь Беларусі, па ініцыятыве якіх адбылося сьвяткаваньне ў Мангатане (апошнімі гадамі яно праходзіла ў суседнім зь Нью-Ёркам гор. Нью-Брансвіку). На сьвята ў прасторную залю Украінскага народнага дому прыбыло каля дзьвесьце чалавек, шмат хто ў народным адзеньні, што вельмі ўпрыгожыла сьвята. Залю ўзбагаціла выстаўка народнае вышыўкі, наладжаная спадарынямі Юляй Андрусышынай і Раісай Станкевіч.**

**Урачыстасьць адкрыў сп. Віталь Зайка, старшыня аддзелу, а вяла яе далей сп-ня Валянтына Якімовіч. У ходзе акадэміі прагучала песьня Сяржука Воюша "Запалім сьвечкі нашых сэрцаў". Удзельнікаў сьвята віталі старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла і старшыня БАЗА Антон Шукелайць. В. Якімовіч зачытала прывітаньні ад Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Канады, Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Чыкага, ад Згуртаваньня Беларусаў Канады прывітаў асабіста сп. Р. Кардонскі.**

**З дакладам на тэму дня выступіў др. Вітаўт Кіпель, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Азнаёміўшы слухачоў з пачаткамі гісторыі руху за незалежнасьць і адзначыўшы нявывучанасьць гісторыі БНР, ён паведаміў пра выхад з друку манумэнтальнага першага тому (дзьве кнігі на 2500 старонак) недрукаваных дасюль архіўных матэрыялаў, сабраных Сяргеем Шупам, да гісторыі першых гадоў БНР. Др. Кіпель заклікаў падпісвацца на гэтае выданьне (цана: 100 даль.), каб можна было за кошт падпіскі рассылаць яго ў бібліятэкі Беларусі. Свой даклад прамоўца закончыў прачытаньнем рэзалюцыі ў падтрыманьне дэмакратычнага руху на Беларусі й асуджэньне гвалту над прадстаўнікамі апазыцыі.**

**Мастацкая частка праграмы складалася галоўна зь песьняў ансамблю сям'і Валянтыны, Алеся і Вольгі Казакоў. Запачаткавала праграму трыма салёвымі нумарамі сапрана сп-ня Лідзія Кано. Тры свае песьні прасьпяваў барытон Аляксандар Балотнік. Сп. Мікола Сагановіч прачытаў патрыятычны верш. Канцэрт быў вельмі цёпла ўспрыняты публікай. Афіцыйная частка праграмы закончылася супольным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.**

**У часе перапынку й абеду госьці мелі нагоду набыць сабе беларускія кнігі і касэткі. Быў таксама праведзены збор ахвяраваньняў на газэту "Беларус". Была выказаная публічна падзяка за вялікі ўклад у арганізацыю сьвяткаваньня спадарству Юлі й Паўлу Андрусышынам ды Алі Кузьміцкай-Шчэцька.**

**Я. З.**

**<u>Ад рэдакцыі:</u> Падобныя сьвяткаваньні 25-га Сакавіка адбыліся ў ЗША 28-га сакавіка ў Саўт-Рывэры, Клілэндзе і Чыкага.**

**ЗВАРОТ**

Камітэта па ўзвядзенню помніка "*Пакутнікам Беларусі*"

Крыжа св. Еўфрасінні Полацкай

"Мартыралог Беларусі", "Хрысціянская злучнасць Курапаты", "Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій", Мінскі грамадска-асветніцкі клуб "Спадчына", Міжнародны дабрачынны фонд Крыжа Еўфрасінні Полацкай, Епархія Мінскага епіскапата Беларускай Праваслаўнай Царквы, касцёл сьв. Сымона і Алены, Мінская грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква, Беларуская асацыяцыя татарскіх суполак, Беларуская асацыяцыя яўрэйскіх суполак стварылі камітэт па ўзвядзенню помніка "Пакутнікам Беларусі".

Помнік вышыней звыш трох метраў (павелічэнне ў 7 разоў адносна арыгінала крыжа Еўфрасінні Полацкай) мусіць быць узведзены ў 1999г. у Курапатах, вядомых ва ўсім свеце.

Адпаведныя навуковыя работы праведзены. Зроблены разлік і распрацаваны праэкт. Знойдзены камень - валун вышыней 1,5 метра, на якім будзе ўстаноўлены крыж. Сам крыж будзе адліты з ліцейнага чугуна, на якім будзе інкрустравана 21 выява святых (з двух бакоў). Выявы будуць адліты з нетускнеючай спецлатуні, якая імітуе золата. На бакавых гранях крыжа мяркуецца змясціць два ўрыўкі: "Покладает Офросинья чъсьный кресть" і "Да не изнесеться ... нікогда же ... кресть сий".

На валуне будзе умацавана чыгунная шыльда з надпісам "Пакутнікам Беларусі", а таксама будуць указаны тыя арганізацыі і прыватныя асобы, якія далучацца да гэтай справы і будуць спрыяць ёй сваімі ахвяраваннямі.

Звяртаемся да арганізацый, фірмаў, а таксама да грамадзянаў Беларусі і суайчыннікаў аказаць пасільную дапамогу сваім удзелам і фінансавай падтрымкай. Імёны і прозвішчы, а таксама назвы арганізацыяў і фірмаў, якія ўнеслі ахвяраванні, будуць занесены ў спецыяльную кнігу "Пакутнікі за Беларусь", адзначаны спецыяльнымі дыпломамі, а тыя, хто найбольш спрычыніўся да святое справы будуць адзначаны на шыльдзе помніка.

*Кантактныя тэлефоны*: 284-18-93 (Штыхаў Георгі Васілевіч), а таксама 235-66-08 (Бела Анатоль Яўхімавіч). Грошы можна пералічыць на разліковы рахунак: грамадскае аб'яднанне "Спадчынаклуб" Партызанскае аддзяленне АК ПСБ г. Мінска, код 386 р/р 3015002280013 з паметкай "На помнік "Пакутнікам Беларусі"; або па пошце: 220037 Мінск, вул. Уральская, д.16, кв. 9 Белы Анатоль Яўхімавіч.

**Аргкамітэт**

Р. Барадулін, А. Белы, А. Грыцкевіч, А. Лыч, Г. Штыхаў, М. Кляшторная, В. Нямковіч, І. Канапацкі, Л. Левін, кс. Уладзіслаў Завальнюк

а. Казімір Ляховіч

30.12.1998

# ВІТАЕМ З ЮБІЛЕЯМ

15-га сакавіка споўнілася 75 год ад нараджэньня Міхасю Белямуку. Вітаем яго і зычым яму добрага здароўя.

Ягоны жыцьцёвы шлях быў ня лёгкім: перажыў вайну, прыехаў 5 жніўня 1949 году ў ЗША., пачаў дапамагаць беларусам у прыездзе ў Кліўлянд, Агаё. Гэтак ён стаў заснавальнікам беларускае калёніі ў Кліўлянд. Дзякуючы яму паўстала парафія Жыровіцкае Божае Маці — Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, Згуртаваньне Беларускае Моладзі, якое ён узначаліў. З ягонай ініцыятывы арганізавалі Аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Амэрыцы, Беларускі Студэнцкі Саюз. Ён быў выдаўцом часопіса "Полацак".

Варта прыгадаць, калі ў 1959 г. пачалася будова мураванае царквы Жыровіцкае Божае Маці, Міхась Белямук стаў ініцыятарам адраджэньня беларускага гістарычнага крыжа, ён запрапанаваў крыж сьв. Еўфрасіньні паставіць у інтэр'еры царквы. На купале зазьзяў пазалочаны крыж сьв. Еўфрасіньні Полацкай, куплены за ягоныя грошы.

У 1973 г. — у сувязі з 800-годзьдзем сьмерці сьв. Еўфрасіньні Полацкае — ён фундуе сярэбраную плякатку-іконку сьв. Еўфрасіньні, скампанаваную выдатным скульптарам Паўлам Вінчы.

Міхась Белямук — аўтар шматлікіх артыкулаў, якія раскінутыя ў беларускім перыядычным друку пад ягоным прозьвішчам і пад псэўдонімамі. Выдаў ён на свае грошы дзьве невялікія працы: "Вытокі беларускіх пачатак", Кліўлянд 1986 г. і "Доктар Г. Штыхаў", Кліўлянд 1984 г. — біяграфічны нарыс і бібліяграфія ягоных працаў.

Сёньня, нягледзячы на такі паважны век, у М. Белямука хапае сілаў і энэргіі змагацца за царкву. Ён не пакідае пяра: піша ўспаміны, рыхтуе артыкулы да апублікаваньня. Хай Бог яму дапамагае!

***Пятро Новікаў***

**АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ**

## БЕЛАРУСЬ МАЯ



















### Беларусь мая

*Музыка Вадзіма НАВІЦКАГА* *Верш Сержука СОКАЛАВА-ВОЮША*

*Аксамітны летні вечар*
*ахінуў зямлю.*
*Я вазёрную сінечу*
*вуснамі лаўлю.*
*Моўчкі слухаю у росах*
*песню салаўя.*
*Над маім лунае лёсам*
*Беларусь мая!*

*А над лесам, над сусветам*
*выпрастаў крыло*
*залацісты човен-ветах,*
*зорнае вясло.*
*Стан дзявочы белай вежы,*
*подых ручая*
*Я адной табе належу,*
*Беларусь мая!*

*Там, дзе гойдае вятрыска*
*залаты мурог,*
*паўставалі камяніскі*
*ля тваіх дарог.*
*Чырванее ранні золак,*
*рэха у гарах,*
*а ў грудзях тваіх асколак,*
*Беларусь мая!*

*Мне краёў чужых не трэба,*
*як ні варажы.*
*Не хачу чужога неба,*
*радасцяў чужых.*
*Бо чужына сэрца джаліць,*
*цісне, як змяя.*
*Бо гукае з дальніх даляў*
*Беларусь мая!*
*Беларусь мая!*
*Беларусь мая!..*

*"Беларускі Дайджэст"*
**патрабуе Вашае дапамогі!!!**

## 80-годзьдзе Беларускай гімназіі ў Вільні

Сьвяткаваньне ў Вільні праходзіць даволі фармальна. Многа былых гімназістаў жыве ў розных краёх сьвету. Было-б добра, каб яны дасылалі свае ўспаміны аб гімназіі ў Вільню. А мы зьмяшчаем з гэтае нагоды архіўны здымак 6-ай клясы гімназіі за 1927/28 гг.



Клясны кіраўнік: Др. Мікола Марціньчык. Верхні рад зьлева направа: Шалешка, Картовіч, Жабінскі, П. Засім, Кажанаў, Рубін, (?), Мацук.
Рад ніжэй: (?), Рак-Міхайлоўскі, Тарасюк, Сукаўскі, В. Тумаш, (?), Кабушка, Шчасны.
Сядзяць: Быхавец, Кунцэвіч, Патомска, Др. Марцінчык, Гур'янава Зоя, Лукашык і Будзька Людвіка. На нізе: Анатоль Сакалоў і Віктар Астроўскі.

## Далейшыя ахвяраваньні на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына...

| | | |
|---|---|---|
| 161. Расьціслаў Завістовіч | | $30.oo |
| 162. Б. Садоўскі | (Англія) | $16.oo |
| 163. В. Калінін | (Англія) | $8.oo |
| 164. Ф. Жынгель | (Англія) | $32.oo |
| 165. М. Мароз | (Англія) | $16.oo |
| 166. В. Грэмяко | (Англія) | $8.oo |
| 167. В. Еўдакімаў | (Англія) | $40.oo |
| 168. М. Сенько | (Англія) | $40.oo |
| 169. Х. Кажаневіч | (Англія) | $16.oo |
| 170. Шыш | (Англія) | $8.oo |
| 171. М. Залога | (Англія) | $8.oo |
| 172. Я. Гурло | (Англія) | $8.oo |
| 173. А. Ражанец | (Англія) | $16.oo |
| 174. Л. Міхалюк | (Англія) | $16.oo |
| 175. Я. Калбаса | (Англія) | $8.oo |
| 176. С. Гатоўка | (Англія) | $16.oo |
| 177. Лёнгіна Брылеўская | | $100.oo |
| 178. Мікола Галоўка | | $25.oo |
| 179. Яраслаў Калюцік | | $15.oo |
| 180. Алесь Захаркевіч | | $50.oo |
| 181. Ніна Кіт | | $25.oo |
| 182. Кастусь Верабей | (2-гі раз) | $30.oo |
| 183. Др. Марыя Дэмковіч | | $50.oo |
| 184. Алег Махнюк | | $50.oo |
| 185. а. Анатоль Сегень | | $300.oo |
| 186. Віктар Балтрусевіч | | $10.oo |
| 187. А. Маркевіч | (Канада, $46.oo кан.) | $30.oo |
| 188. Адольф Субота | | $50.oo |
| 189. Алекс Сільвановіч | | $100.oo |
| 190. П. Саўчанка | (Беларусы Літвы) | $30.oo |
| 191. Кляра Кумэйша | | $50.oo |

Прадаўжэньне ЛІСТЫ ахвярадаўцаў у наступных №№ нашае газэты... Дзякуем!

Моцна просім нашых чытачоў перасылаць свае ахвяры на Музэй на наш адрас на прозьвішча М. Прускі. Калі ласка, дапамажэце нам закончыць гэтую акцыю як найскарэй...

Не адкладайце на пазьней, высылайце сваю ахвяру цяпер...



## СЁЕ — ТОЕ...

***Дзіўны, мо нават унікальны мы народ, беларусы (такі ж, бадай, як і наш усходні сусед): ну зусім не здатныя мы вучыцца ні на чужых, ні на сваіх уласных горкіх, нават трагічных памылках. Стагоддзі гора і пакут, у тым ліку цягам апошніх васьмідзесяці гадоў, анічому нас, практычна, так і не навучылі. Для нас нават і Біблія, гэтая сапраўдная Кніга Быцця, якая дае яго ярчэйшыя ўрокі на ўсе магчымыя выпадкі, для нас не аўтарытэт. А можна было б, а трэба было б зазірнуць туды ды разважыць, падумаць...***

***Павёў з Егіпта, з рабства свой народ Маісей. І што? Ужо ці не ў першы, другі год многія пачалі бурчэць, абурацца, гневацца. Цяжка было ім брысці па пустыні, смягнуць без вады, падаць ад бяссілля, смаліцца пад пякельным сонцам удзень і дрыжэць ад холаду пад рызманамі ўначы. Захацелася вярнуцца назад, у рабства. А як жа: там было нялёгка, але затое была — пэўнасць. Цяпер жа наперадзе — адно змрок і беспрасветнасць...***

***Гэтак і мы. Толькі памкнуліся да свабоды і годнасці — і вось ужо: "Асадзі назад!" Туды, дзе было, здаецца, мяркуючы па сённяшняй галечы, уежна і ўлежна. І няма ў нас прарока ў сваёй Айчыне. Таго, хто павёў бы нас, насуперак енкам і плачу, далей, у "краіну светлую", "краіну-браначку", туды, дзе "зара разгараецца", дзе мы здолелі б заняць "свой пасад між народамі". У нас — іншыя прарокі і іншыя шляхі-дарогі. Якія ўсё болей нагадваюць звіліны лабірынта, выйсце з якога, па ўсім, — у мінулае, у безнадзейнасць...***

Падаецца да ведама наш e-mail address: **bdigest@iserv.net**



Аўтапартрэт рэдактара «Беларускага Дайджэсту». Падтрымайце наша выдавецтва!!!

## САЮЗ І ЛЮБВА!




Сядзіць прэзыдэнт Лукашэнка ў сваім кабінэце, глядзіць на свой партрэт на сьцяне і думае: — Эканоміка развальваецца, народ бяднее, Эўропа нас не прызнае... Напэўна мяне хутка зьнімуць.

А партрэт кажа яму:

— Гэта мяне зьнімуць, а цябе павесяць.

* * *

За вялікі ўклад у разьвіцьцё брацкае любві між народамі, Усерасейская ліга сэксуальных меншасьцяў узнагародзіла А. Лукашэнку ордэнам «Гэй, славяне».

31 сакавіка а 14-тай гадзіне ў гатэлі «Кастрычніцкі» павінна распачацца ўрачыстая цырымонія рэгістрацыі кандыдатаў у прэзыдэнты, і менавіта з гэтага моманту Зянон Пазьняк і Міхаіл Чыгір фармальна ўступяць у перадвыбарчую прэзыдэнцкую барацьбу.



На цырымонію запрошаныя прадстаўнікі дыпляматычнага корпусу, кіраўнікі місіяў АБСЭ і ААН. Присутнасьць прадстаўнікоў заходніх структураў павінна, паводле ідэі арганізатараў, сьведчыць пра міжнароднае прызнаньне выбарчай кампаніі. Віктар Ганчар лічыць, што прадстаўнікі заходніх структураў прыйдуць. Але, як паведамілі нашаму радыё ў прадстаўніцтве АБСЭ ў Менску, запрашэньне там пакуль не атрымалі.

На цырымонію рэгістрацыі кандыдатаў запрошаны і Аляксандар Лукашэнка.

21 сакавіка, як гэта было ўжо неаднойчы, над шашой Віцебск--Смаленск, пры ўезьдзе ў Лёзна, залунаў бел-чырвона-белы сьцяг. Сьцяг узьняты на 35-мэтровай вышыні, на апоры лініі электраперадачаў напругай у 35 тысячаў вольтаў.

З крыніцаў вартых даверу было паведамлена, што да сьцяга прымацаваная цыдулка -- на той выпадак, калі ўладныя структуры ўсё ж аддадуць загад зьняць сьцяг з апоры. Ейны зьмест гэткі: «Наяўнасьць палітвязьняў на маёй радзіме лішні раз пацьвярджае антыбеларускі курс рэжыму. Свабоду Ўладзімеру Плешчанку!»